"Царква", № 1 (60), 2009

Слова

# Мэта сапраўднага посту – спажываньне «сапраўднай ежы»



**Пасланьне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI**
**на Вялікі пост 2009 году**

Дарагія браты і сёстры!
На пачатку Вялікага посту, які зьяўляецца шляхам інтэнсіўнай духоўнай падрыхтоўкі, літургія заахвочвае нас да трох практык пакаяньня, уласьцівых біблійнай і хрысьціянскай традыцыі,– да малітвы, міласьціны і посту,– каб мы як мага лепш падрыхтаваліся да сьвяткаваньня ўрачыстасьці Вялікадня і адчулі моц Бога, які – як пачуем падчас Пасхальнай вігіліі – «праганяе злосьць, змывае правіны і вяртае ласку ўпаўшым, а засмучаным радасьць, зьнішчае нянавісьць, яднае ў згодзе і скарае зямныя ўлады» (Абвяшчэньне Пасхі).

У традыцыйным Пасланьні на Вялікі пост хацеў бы ў гэтым годзе асаблівым чынам паразважаць над значэньнем і сэнсам посту. Вялікі пост нагадвае нам пра 40-дзённы пост, які Госпад меў у пустыні перад распачацьцем сваёй публічнай дзейнасьці. У Евангельлі чытаем: «Тады Дух вывеў Ісуса ў пустыню, каб д'ябал выпрабоўваў Яго. І, пасьціўшы сорак дзён і сорак начэй, [Ісус] нарэшце адчуў голад» (Мц 4, 1-2). Падобна як Майсей перад тым, як атрымаць скрыжалі Дэкалогу (пар. Вых 34, 28), і як Ільля перш чым сустрэў Бога на гары Гарэб (пар. 3 Цар 19, 8), так і Ісус праз малітву і пост падрыхтаваўся да сваёй місіі, пачаткам якой была цяжкая сустрэча з выпрабаваньнем.

Можам задаць сабе пытаньне: якую каштоўнасьць і які сэнс мае для нас, хрысьціянаў, адмаўленьне ад чагосьці, што само па сабе зьяўляецца добрым і дазваляе нам жыць. Сьвятое Пісаньне і ўся хрысьціянская традыцыя вучыць, што пост дапамагае пазьбягаць граху і таго, што вядзе да яго. Таму ў гісторыі збаўленьня шмат разоў гучыць заклік да посту. Ужо на першых старонках Сьвятога Пісаньня Бог загадвае чалавеку, каб ён ня еў забароненага плоду: «З усялякага дрэва ў садзе можаш есьці, але з дрэва пазнаньня дабра і зла не спажывай, бо ў дзень, калі зьясі з яго, напэўна, памрэш» (Быц 2, 16-17). Каментуючы Божы загад, сьв. Васіль Вялікі заўважае, што «пост быў загаданы ў раі», а «першым, хто атрымаў такі наказ, быў Адам». І заканчвае

так: «Забарона «не спажывай» ёсьць, такім чынам, законам посту і ўстрыманьня» (пар. Sermo de jejunio: PG 31, 163, 98). З прычыны таго, што мы ўсе абцяжараныя грахом і яго наступствамі, пост дадзены нам як сродак, які дазваляе аднавіць лучнасьць з Богам. Так учыніў Ездра перад вяртаньнем у Абяцаную зямлю з выгнаньня, заахвочваючы сабраны народ да посту, «каб мы скарыліся перад нашым Богам» (Езд 8, 21). Усемагутны пачуў іхнія малітвы і паабяцаў Сваю прыхільнасьць і апеку. Гэтаксама паводзілі сябе жыхары Ніневіі, якія паслухаліся закліку Ёны да пакаяньня і ў знак шчырасьці абвясьцілі пост, кажучы: «Хто ведае, можа Бог зьмілуецца і даруе, і адверне свой гнеў, і мы не загінем» (Ёна 3, 9). І тады Бог глянуў на іхнія чыны і пашкадаваў іх.

У Новым Запавеце Ісус паказвае галоўнае значэньне посту, асуджаючы паводзіны фарысеяў, якія дакладна захоўвалі патрабаваньні закону, хоць іх сэрца было далёкае ад Бога. Сапраўдны пост, як нагадвае ў іншым месцы Боскі Настаўнік,– гэта выкананьне волі Нябеснага Айца, які бачыць патаемнае і аддасьць табе (пар. Мц 6, 18). Ён Сам дае прыклад, адказваючы сатане пасьля 40 дзён, праведзеных у пустыні, што «ня хлебам адным будзе жыць чалавек, а кожным словам, што выходзіць з вуснаў Божых» (Мц 4, 4). Мэта сапраўднага посту – гэта спажываньне «сапраўднай ежы», якой зьяўляецца выкананьне волі Айца (пар. Ян 4, 34). Паколькі Адам не паслухаўся наказу Бога, каб не спажываць плоду «з дрэва пазнаньня дабра і зла», веруючы чалавек праз пост хоча пакорліва даверыцца Богу, спадзеючыся на Яго дабрыню і міласэрнасьць.
---------------------
**Цытата:** "Нашае свабоднае рашэньне адмовіцца ад чагосьці, каб дапамагчы іншым, канкрэтна паказвае, што бліжні, які перажывае цяжкасьці, не зьяўляецца для нас чужым. [...] Менавіта такім быў ад пачатку стыль жыцьця хрысьціянскай супольнасьці, у якой арганізоўваліся сьпецыяльныя зборы ахвяраваньняў, а вернікаў заахвочвалі аддаваць бедным тое, што дзякуючы посту ўдалося адкласьці. Таксама і сёньня трэба нанова адкрыць гэтую практыку і заахвочваць да яе"
---------------------
Практыка посту была вельмі распаўсюджанай у супольнасьці першых хрысьціянаў (пар. Дз 13, 3; Дз 14, 22; Дз 27, 21; 2 Кар 6, 5). Таксама Айцы Царквы кажуць пра моц посту, якая абараняе ад грахоў, утаймоўвае жаданьні «старога Адама» і пракладае ў сэрцах людзей, якія вераць, шлях да Бога. Пост часта практыкуюць і раяць сьвятыя розных эпох. Сьвяты Пётр Хрызалог пісаў: «Душою малітвы ёсьць пост, а жыцьцём посту – міласэрнасьць. Таму той, хто моліцца, няхай посьціць, а хто посьціць, няхай выконвае ўчынкі міласэрнасьці, няхай выслухоўвае таго, хто просіць, які хоча быць пачутым. Хто хоча знайсьці сэрца Бога адкрытым, няхай ніколі не закрывае свайго сэрца для тых, хто просіць» (Казаньне 43).

Здаецца, што ў наш час крыху зьменшылася духоўнае значэньне практыкі посту. Яна стала – у культуры, дзе пераважае імкненьне да матэрыяльнага дабрабыту,– больш тэрапеўтычным сродкам для лячэньня цела. Вядома, пост дапамагае захаваць добрае фізічнае здароўе, але для вернікаў ён зьяўляецца ў першую чаргу «тэрапіяй», якая дапамагае вылечыць усё тое, што перашкаджае выкананьню волі Божай. У Апостальскай канстытуцыі Paenitemini 1966 г. Слуга Божы Павел VI сьцьвердзіў, што трэба разглядаць пост у кантэксьце пакліканьня кожнага хрысьціяніна, які «не для сябе (...) павінен жыць, але для Бога, які палюбіў яго і выдаў за яго Самога Сябе, а таксама павінен жыць для братоў» (пар. Paenitemini, I). Вялікі пост – гэта добрая магчымасьць прыгадаць сабе прынцыпы, зьмешчаныя ў цытаванай Апостальскай канстытуцыі, падкрэсьліваючы гэтым самым праўдзівае і нязьменнае значэньне гэтай старажытнай практыкі, якая можа нам дапамагчы зьнішчыць наш эгаізм і адкрыць сэрца на любоў да Бога і бліжняга, што зьяўляецца першай і самай важнай запаведдзю новага Закону, а таксама сутнасьцю ўсяго Евангельля (пар. Мц 22, 34-40). Дакладнае захаваньне посту садзейнічае еднасьці асобы, яе цела і душы, што дапамагае пазьбягаць граху і ўзрастаць у еднасьці з Богам. Сьвяты Аўгустын, які добра ведаў уласныя дрэнныя схільнасьці і называў іх «заблытаным і складаным вузлом» (Вызнаньні, II, 10.18), у трактаце пра «Карысьць посту» пісаў: «Я раблю сабе вялікія цярпеньні, каб Ён мне прабачыў; я сам сябе караю, каб Ён мне дапамог, каб я знайшоў упадабаньне ў Яго вачах і спазнаў Яго слодыч» (Sermo 400, 3, 3). Адмаўленьне ад матэрыяльнага спажытку, які жывіць цела, умацоўвае ўнутраную гатоўнасьць слухаць Хрыста і карміцца Яго збаўчым словам. Праз пост і малітву мы дазваляем, каб Ён прыходзіў і каб задавальняў найбольшы голад, які мы адчуваем у сабе: голад і прагу Бога.

Адначасова пост дапамагае нам усьвядоміць, у якой сітуацыі жывуць многія нашыя браты. У 1-ым Пасланьні сьв. Ян нагадвае: «Калі хтосьці мае дастатак у сьвеце і бачыць брата свайго ў нястачы, і закрывае перад ім сваё сэрца, то як любоў Божая можа жыць у ім?» (1 Ян 3, 17). Дабравольны пост дапамагае нам насьледаваць добрага самараніна, які заўважыў брата, які церпіць, і сьпяшаецца яму на дапамогу (пар. Энц. Deus caritas est, 15). Нашае свабоднае рашэньне адмовіцца ад чагосьці, каб дапамагчы іншым, канкрэтна паказвае, што бліжні, які перажывае цяжкасьці, не зьяўляецца для нас чужым. Менавіта для таго, каб заахвоціць да такой адкрытай і чулай паставы адносна братоў, заклікаю парафіі і іншыя супольнасьці ў перыяд Вялікага посту часьцей практыкаваць пост, індывідуальна і супольна, прысьвячаючы сябе слуханьню Божага слова, малітве і ўчынкам

міласэрнасьці. Менавіта такім быў ад пачатку стыль жыцьця хрысьціянскай супольнасьці, у якой арганізоўваліся сьпецыяльныя зборы ахвяраваньняў (пар. 2 Кар 8-9; Рым 15, 25-27), а вернікаў заахвочвалі аддаваць бедным тое, што дзякуючы посту ўдалося адкласьці (пар. Didascalia Ap., V, 20, 18). Таксама і сёньня трэба нанова адкрыць гэтую практыку і заахвочваць да яе, найперш, падчас літургічнага перыяду Вялікага посту.

Са сказанага відавочна, што пост – гэта каштоўная аскетычная практыка, духоўная зброя ў барацьбе з усялякай магчымай неўпарадкаванай прывязанасьцю да саміх сябе. Дабравольнае адмаўленьне ад прыемнасьці, якой зьяўляецца ежа, і ад іншых матэрыяльных дабротаў дапамагае вучню Хрыста панаваць над рознымі жаданьнямі натуры, аслабленай першародным грахом, негатыўныя вынікі якога адбіваюцца на ўсёй чалавечай асобе. Да гэтага ж заахвочвае старажытны літургічны вялікапосны гімн: «Utamur ergo parcius, / verbis, cibis et potibus, / somno, iocis et arctius / perstemus in custodia – Будзем жа сьціплымі ў словах, ежы, піцьці, сьне і жартах, і пільней будзем чуваць».

Дарагія браты і сёстры, як бачым, пост дапамагае кожнаму з нас – як пісаў Слуга Божы папа Ян Павел II – стаць поўным дарам для Бога (пар. Энц. Veritatis splendor, 21). Таму няхай Вялікі пост дапаможа кожнай сям'і і кожнай хрысьціянскай супольнасьці аддаліцца ад усяго, што перашкаджае духу, і паглыбіць тое, што корміць душу, адкрываючы яе на любоў да Бога і бліжняга. Асабліва маю на ўвазе інтэнсіўную малітву, lectio divina, частае практыкаваньне сакраманту паяднаньня, а таксама актыўны ўдзел у Еўхарыстыі, і, найперш, у нядзельнай сьв. Літургіі. З такой унутранай гатоўнасьцю ўвойдзем у атмасферу вялікапоснага пакаяньня. Няхай нам спадарожнічае Найсьвятая Дзева Марыя, Causa nostrae laetitiae (Крыніца нашай радасьці), і няхай нас падтрымлівае ў працы вызваленьня нашых сэрцаў з няволі граху, каб яны ўсё больш станавіліся «жывой даразахавальніцай Бога». З такімі пажаданьнямі, запэўніваючы вас аб малітве, каб кожны вернік і кожная царкоўная супольнасьць з карысьцю прайшлі шлях Вялікага посту, ад усяго сэрца ўдзяляю ўсім Апостальскае Блаславеньне.

Ватыкан, 11 сьнежня 2008 г.

Сьвятло Ўсходу

# Неабходна інкультурацыя Евангельля і евангелізацыя культуры

**Пра важнасьць інкультурацыі Евангельля і евангелізацыі культуры ў сучаснай місіі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы гаварыў Архімандрыт Сяргей Гаек у Гамінгу (Аўстрыя) на Міжнародным сімпозіюме «Місія Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў у жыцьці Паўсюднай Царквы ды ў сучасным сьвеце», які праходзіў 4-6 сакавіка 2009 году.**



Гэты Міжнародны сімпозіюм у аўстрыйскім горадзе Гамінг быў арганізаваны пад сумесным патранатам Архібіскупа Вены кардынала Хрыстафа Шонбарна (Christoph Schönborn) ды Першаярарха Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, Вярхоўнага Архібіскупа Кіеўска-Галіцкага Любаміра (Гузара). Сімпозіюм праходзіў у Міжнародным тэалагічным інстытуце дасьледаваньняў праблемаў сужэнства і сям'і, а сьвятым апекуном для яго быў абраны сьвяты архібіскуп і мучанік Язафат, мошчы якога доўгі час знаходзіліся ў Вене.

Да ўдзелу ў Сімпозіюме былі запрошаныя ярархі Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў (у першую чаргу з Усходняй і Цэнтральнай Еўропы), а таксама іншыя сьпецыялісты, якія займаюцца праблематыкай Усходніх Цэркваў. Усяго прысутнічала 17 біскупаў з 10 еўрапейскіх краінаў, і больш за 150 прафесараў, рэктараў багаслоўскіх навучальных установаў, студэнтаў ды дактарантаў.

У склад дэлегацыі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ўваходзілі Апостальскі Візітатар Архім. Сяргей (Гаек), канцлер курыі Апостальскага Візітатара ў Менску протапрасьвітар Андрэй Абламейка і студэнт багаслоўскага факультэту Каталіцкага ўніверсітэту ў Айхштэт (Eichstdtt) у Нямеччыне Алесь Аўдзяюк.

Сімпозіюм распачаўся ў сераду, 4 сакавіка ўвечары, урачыстым служэньнем у ангельскай мове Літургіі раней асьвячаных Дароў, якую ачоліў Уладыка Джон М. Кудрык, біскуп русінскай грэка-каталіцкай япархіі Парма (ЗША).

Даклады і форумы пачаліся ў чацьвер, 5 сакавіка. Сярод дакладчыкаў Сімпозіюму былі вядомыя навукоўцы – сябры БГКЦ: а. прафесар Эрнст Хрыстаф Сутнэр (Вена), а. прафесар Цырыл Васіль, SJ (рэктар Папскага Ўсходняга інстытуту ў Рыме), прафесар Украінскага каталіцкага ўніверсітэту Алег Турый (Львоў) і іншыя.

Сустрэча распачалася прывітальнымі словамі арганізатараў і гаспадароў сустрэчы: мансіньёра прафесара Лары Хогана, прэзідэнта Міжнароднага тэалагічнага інстытуту, і Ўладыкі Хрыстафа Шонбарна, які зьяўляецца таксама і ардынарыем для католікаў усходняга абраду ў Аўстрыі. У сваім слове Ўладыка Шонбарн гаварыў пра служэньне грэка-каталіцкіх Цэркваў Паўсюднай Царкве праз свае дары (харызмы), сярод якіх асабліва вылучыў тры: каштоўны скарб Літургіі, багаслоўе Ўсходніх Цэркваў і правільны баланс паміж сацыяльным і духоўным элементамі, якія разам скіраваныя да аднаго цэнтру – Хрыста.

Прывітальнае слова Вярхоўнага Архібіскупа Любаміра Гузара прачытаў Уладыка Глеб (Ланчына). У гэтым слове асабліва падкрэсьліваліся пытаньні ролі і заданьня ўсходніх каталіцкіх Цэркваў для Паўсюднай Царквы, а таксама адзначалася неабходнасьць больш блізкага ўзаемнага знаёмства паміж іхнімі Традыцыямі і

Традыцыяй лацінскай Царквы.

Пасьля прывітальных словаў распачаліся даклады ўдзельнікаў сімпозіюму. Першым сваімі гістарычнымі і эклезіялагічнымі разважаньнямі пра адносіны паміж грэка-каталіцкімі Цэрквамі Еўропы і ўсёй Царквой падзяліўся вядомы экуменічны дзеяч прафесар Эрнст Сутнэр, пасьля якога даклад пра гісторыю і сучаснасьць румынскай унійнай Царквы чытаў прафесар Чэзарэ Альцаці (Мілан, Італія). У сваім дакладзе сярод іншых думак прафесар Альцаці заўважыў, што памылкова лічыць Унію між канкрэтнай Царквой і Рымам актам заснаваньня гэтай Царквы і гэтаксама памылкова лічыць, што Унія перакрэсьліла старую традыцыю. З гэтай прычыны недарэчна адлічваць дату існаваньня любой усходняй каталіцкай Царквы ад даты яе Уніі з Рымскім Апостальскім Пасадам.

Пасьля Боскай Літургіі, якую адслужыў Уладыка Ян Бабяк, SJ, мітрапаліт і архібіскуп Прэшаўскі, свой даклад прапанаваў рэктар Папскага Ўсходняга інстытуту ў Рыме прафесар а. Цырыл Васыль, SJ, які разглядаў пытаньні стану сучасных усходніх Цэркваў у сьвятле кананічнага права і рэальнай царкоўнай практыкі. Вельмі цікавымі ў ягоным дакладзе былі думкі адносна працэсу эвалюцыі ў Царкве тэрмінаў «абрад», «нацыя» і «Царква», якую можна часткова прасачыць паводле зьменаў у тэрміналогіі афіцыйнага даведніка Апостальскага Пасаду ў Рыме «Annuario Pontificio», які хоць і не зьяўляецца афіцыйным прававым дакументам, але адлюстроўвае рэальнае разуменьне гэтых тэрмінаў у канкрэтныя гістарычныя перыяды.

Наступным свае думкі адносна ідэнтычнасьці і пасланьня грэка-каталіцкай Царквы выклаў дэкан гуманітарнага факультэту Ўкраінскага каталіцкага ўніверсітэту прафесар доктар Юры Авакумаў, матэрыялы якога ўжо друкаваліся раней у «Царкве». Ён гаварыў пра праблемы канфесійнай сьвядомасьці і пра падвойную ідэнтычнасьць грэка-каталіцкіх Цэркваў, якія ўжо цяпер паядноўваюць у сабе ўсходні і заходні, праваслаўны і каталіцкі элементы і якія пакліканы пераадолець той «бярлінскі мур», які праваслаўныя і каталікі старанна выбудоўвалі доўгі час амаль да сёньняшняга дня.



Айцец Ю.Авакумаў таксама накрэсьліў тры пункты, неабходныя для выкананьня задачаў, якія стаяць перад нашымі грэка-каталіцкімі Цэрквамі і фармуюць яе місійнае заданьне ў Царкве: кожны ўсходні каталік мусіць шукаць сяброў сярод праваслаўных хрысьціянаў, таксама ён мусіць шукаць сапраўдных сяброў сярод рыма-каталікоў, і ўрэшце, усе ўсходнія каталікі мусяць быць у сталым кантакце між сабою, каб выпрацаваць адзіны агульны «фронт» перад актуальнымі праблемамі грамадзтва.

Апошні навуковы даклад меў прафесар УКУ Алег Турый, тэмаю якога была нацыянальная і эклезіяльная ідэнтычнасьць грэка-каталіцкіх Цэркваў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. У сваім гістарычным экскурсе прафесар А.Турый між іншым заўважыў, што «ўнійная Царква Рэчы Паспалітай, калі мы будзем выкарыстоўваць сучасную геаграфічную тэрміналогію, была амаль да канца 17 ст. хутчэй «беларускім», чым «украінскім» фенаменам».

Дзень, які быў насычаны навуковымі дакладамі і цікавымі ды карыснымі ідэямі, завяршыўся супольнай вячэрай і цудоўна сьпяваным Акафістам Найсьвяцейшай Багародзіцы.

У пятніцу, 6 сакавіка, на завяршэньне ўсяго сімпозіюму, адбыліся форум і агульная дыскусія біскупаў, у якой прыняў удзел і Апостальскі Візітатар БГКЦ архімандрыт Сяргей (Гаек). У сваім слове пра некаторыя асьпекты місіі БГКЦ ён, між іншым, сказаў: «Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква бачыць сваю важную місію ў пашырэньні (Promotion) беларускай хрысьціянскай культуры. Адпраўленьне службаў на беларускай мове мае для нас не філалагічнае вымярэньне, але зьяўляецца зьдзяйсьненьнем неабходнага для евангелізацыі сімбіёзу паміж Евангельлем і культурай на землях, дзе народная мова і культура былі моцна зьнішчаны. Зразумела,

што інкультурацыя Евангельля і евангелізацыя культуры адбываецца ў шматлікіх сферах душпастырскага служэньня Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, у Беларусі і за мяжой».

У гэтым кантэксьце Архімандрыт Сяргей узгадаў асаблівыя заслугі Беларускай Каталіцкай місіі ў Лондане: «Беларусы грэка-католікі за мяжой даверваны апецы Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа мітрафорнага протаярэя Аляксандра Надсана, які жыве ў Беларускай Місіі ў Лондане. Дапамагаюць яму ў працы тры сьвятары ў розных краінах.



Папярэднікамі а. Аляксандра Надсана на пасадзе Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа былі два грэка-каталіцкія біскупы: біскуп Чэслаў Сіповіч (1960-1981 гг.) і біскуп Уладзімір Тарасевіч (1983-1986 гг.). Былі гэта адзіныя беларускія грэка-каталіцкія біскупы ад часу скасаваньня Уніі на так званым «саборы» ў Полацку ў 1839 г.

Беларуская Місіія ў Лондане, а асабліва а. Аляксандр Надсан, мае вялікія заслугі ў перакладзе візантыйскіх літургічных тэкстаў на сучасную беларускую мову».

Не засталася без увагі і сумная дата 170-годдзя ліквідацыі Ўніяцкай Царквы на г. зв. «саборы» ў Полацку, пра якую Архімандрыт сказаў:

«Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква зьяўляецца непасрэднай спадкаемцай Берасьцейскай Уніі, якая была заключана паміж япіскапамі Рускай Царквы (Ecclesia Ruthena) і Рымскай Апостальскай Сталіцай. Усходняя Царква, якая на ўнійным Сінодзе ў Берасьці аднавіла сваю еднасьць з Рымам, у гісторыю Беларускіх Земляў федэрацыйнага дзяржаўнага арганізму, называнага Рэччу Паспалітай (Res publica Polono-Lithuana), упісалася пад назвай Уніяцкая. У нашым царкоўным календары дата 16 кастрычніка штогод адзначаецца як успамін унійнага Сіноду ў Берасьці 1596 году.

Але некалькі дзён таму, 24 лютага 2009 году, мінула 170 гадоў ад так званага «сабору» ў Полацку ў 1839 годзе, на якім уніяцкі біскуп Літоўскай япархіі Іосіф Сямашка і ягоныя паплечнікі – пад націскам царскіх уладаў – абвясьцілі «аб’яднаньне» (воссоединение) Уніяцкай Царквы на Беларускіх Землях з дзяржаўнай Царквой Расейскай Імперыі (якая называлася «православно-кафолическая Церковь»). 25 сакавіка 1839 году цар Мікалай I і Сінод Расейскай Праваслаўнай Царквы пацьвердзілі ліквідацыю Ўніяцкай Царквы.

Толькі пасьля заканчэньня I Сусьветнай вайны Ўсходняя Каталіцкая Царква візантыйска-славянскага абраду змагла адрадзіцца ў Заходняй Беларусі, землі якой заставаліся пад панаваньнем Польшчы. На гэтых тэрыторыях у міжваенны час існавала амаль 30 парафіяў, якія засталіся ў юрысдыкцыі мясцовых лацінскіх біскупаў (Вільня, Пінск). На пачатку II Сусьветнай вайны, у верасьні 1939 г., тэрыторыя Заходняй Беларусі была далучана да Савецкага Саюзу і большасьць грэка-каталіцкіх парафіяў была ліквідавана.

Львоўскі мітрапаліт Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Андрэй Шаптыцкі прызначыў у той час (1940) Экзарха для Беларусі а. Антона Неманцэвіча, SJ. Экзарх Антон неўзабаве ў 1942 годзе быў арыштаваны нацысцкім SD і ў 1943 годзе загінуў мучаніцкай сьмерцю ў Менску.

Канец 80-х гг. мінулага стагоддзя на Беларусі характарызаваўся ростам зацікаўленасьці Ўніяцкай Царквой сярод студэнтаў і інтэлігенцыі Менску і іншых гарадоў Беларусі. Рух за адраджэньне Ўніяцкай Царквы ўзмоцніўся ў 1990 годзе пасьля візіту ў Менск Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа мітрафорнага протаярэя Аляксандра Надсана.

**Дзень 11 сакавіка 1990 году, калі а. Аляксандр Надсан адслужыў у Менску Боскую Літургію на беларускай мове, можа быць прызнаны за дату аднаўленьня душпастырскай дзейнасьці грэка-каталіцкіх парафіяў у Беларусі».**

Напрыканцы свайго слова Архімандрыт Сяргей падкрэсьліў, што духоўная місія БГКЦ у сферы інкультурацыі Евангельля і евангелізацыі культуры магчыма дзякуючы падтрымцы Цэркваў-сёстраў, пад якімі маюцца на ўвазе грэка-каталіцкія Цэрквы ва Ўкраіне (у тым ліку ў Закарпацьці), у Польшчы, у Славакіі. Таксама важнай ёсьць дапамога, якую для працягу сваёй місіі Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква атрымлівае ад Царквы лацінскага абраду як у Беларусі, так і ў Заходняй Эўропе.

**Алесь Аўдзяюк**

**Фота:**
1. Выступае кардынал Хрыстаф Шонбарн.
2. Урачыстая архірэйская багаслужба падчас сімпозіюму.
3. Усходнекаталіцкія ярархі Эўропы – удзельнікі сімпозіюму ў Аўстрыі.

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Дакументы II Ватыканскага Сабору – упершыню па-беларуску

**14 лютага 2009 году ў нацыянальным выставачным цэнтры «Белэкспа» ў Менску адбылася прэзентацыя першага перакладу на беларускую мову Дакументаў Другога Ватыканскага Сабору, а таксама кнігі кс. прафесара Яна Гурскага «Сустрэча з рэлігіямі».**



На прэзентацыі выступілі рыма-каталіцкі Мітрапаліт Менска-Магілёўскі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, старшыня Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Царквы пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі кс. Ян Крэміс, магістр тэалогіі Марына Пашук, кс.Ян Гурскі, доктар тэалогіі, прафесар, аўтар кнігі «Сустрэча з рэлігіямі», дырэктар выдавецтва «Pro Christo» Аліна Новікава, перакладчык кнігі «Сустрэча з рэлігіямі» на беларускую мову, рэдактар часопісаў «Ave Maria» і «Наша Вера» Крыстына Лялько.

Напачатку прэзентацыі Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Ўладыка Тадэвуш (Кандрусевіч) падкрэсьліў значнасьць дадзенай працы, а таксама падзякаваў усім супрацоўнікам Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Царквы пры ККББ, намаганнямі якіх быў здзейснены пераклад на беларускую мову Дакументаў Другога Ватыканскага Сабору.

«Сёньня адбываецца прэзентацыя доўгачаканага перакладу Дакументаў II Ватыканскага Сабору. Паглыбленьне самасьвядомасьці Касьцёла, аднаўленьне яго жыцьця, дыялог з хрысьціянскімі канфесіямі і нехрысьціянскімі рэлігіямі, дыялог з сусьветам – вось асноўныя мэты II Ватыканскага Сабору. Сёньня немагчыма ўявіць вучэньне Касьцёлу без дадзеных дакументаў. Асабліва хачу падкрэсьліць, што пераклад на беларускую мову быў зьдзейснены не механічна, творча. Існавала неабходнасьць стварэньня новай тэрміналогіі. Такім чынам, пераклад Дакументаў II Ватыканскага Сабору – гэта таксама значны ўклад Каталіцкага Касьцёлу ў нацыянальную беларускую культуру»,– падкрэсьліў архіпастыр РКЦ у Беларусі.

Мітрапаліт таксама дадаў, што экзэмпляры Дакументаў II Ватыканскага Сабору будуць падараваны Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, абласным і раённым бібліятэкам, а таксама Беларускай Праваслаўнай Царкве.
Кажучы пра кнігу Яна Гурскага «Сустрэча з рэлігіямі», Уладыка адзначыў:«Сёньняшні чалавек жыве ў сьвеце глабалізацыі. Таму, каб весьці дыялог з іншымі рэлігіямі, першапачаткова трэба ведаць пра іх саміх і іх вучэньне. Значным плюсам дадзенай кнігі зьяўляецца і тое, што яна зьмяшчае афіцыйнае вучэньне Каталіцкага Касьцёлу аб гэтых рэлігіях».

Кс. Ян Крэміс у сваю чаргу выказаў спадзяваньне на тое, што «знаёмства з Дакументамі II Ватыканскага Сабору паспрыяе разуменьню місіі Касьцёла ў грамадзтве», і падзякаваў Мітрапаліту Тадэвушу Кандрусевічу за ініцыятыву і падтрымку падчас працы над перакладам.

Магістр тэалогіі Марына Пашук, кажучы пра пэўныя цяжкасьці працы над гэтым выданьнем, адзначыла: «Пры выкарыстаньні ў дакументах адпаведнай тэалагічнай тэрміналогіі Секцыя па перакладзе кіравалася прынятымі ў Каталіцкім Касьцёле на Беларусі і зацьверджанымі кампетэнтнай касьцёльнай уладай тэрмінамі, якія выкарыстоўваюцца ў літургічных кнігах, дакументах Касьцёлу і ў перыядычных каталіцкіх выданьнях, акрамя гэтага даводзілася перакладаць на родную мову новыя паняцьці і ствараць новыя тэрміны».
Ксёндз прафесар Ян Гурскі выказаў радасьць і ўдзячнасьць за магчымасьць убачыць сваю кнігу на беларускай мове. Асаблівым чынам ён падзякаваў перакладчыцы – спадарыні Крыстыне Лялько. Трэба адзначыць, што менавіта ў гэтай кнізе ўпершыню цытуюцца Дакументы II Ватыканскага Сабору на беларускай мове.

Пасьля заканчэньня прэзентацыі кожны меў магчымасьць набыць пераклад Дакументаў II Ватыканскага Сабору, а таксама кнігу «Сустрэча з рэлігіямі» з подпісам аўтара

*Паводле Catholic.by*

**На фота:** Мітрапаліт Т.Кандрусевіч прэзентуе беларускі пераклад Дакументаў II Ватыканскага Сабору.

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Бенядыкт XVI пра дыялог паміж хрысьціянствам і юдаізмам

**Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI мае надзею, што яго падарожжа ў Сьвятую Зямлю дапаможа «паглыбіць дыялог Царквы з габрэйскім народам, каб габрэі і хрысьціяне, а таксама мусульмане, маглі жыць там у супакоі і згодзе». Гэтыя словы Папа прамовіў падчас прыёму дэлегацыі з Ізраіля і Папскай камісіі па рэлігійным дыялогу з юдаізмам 12 сакавіка 2009 г.**

«Дыялог, у якім вы прымаеце актыўны ўдзел, зьяўляецца плодам гістарычнага візіту майго ўмілаванага папярэдніка папы Яна Паўла II у Сьвятую Зямлю ў сакавіку 2000 года,– падкрэсьліў Бенядыкт XVI у сваёй прамове.– Гэта ён жадаў, каб быў распачаты дыялог з габрэйскімі рэлігійнымі ўстановамі ў Ізраілі, а яго заахвочваньне было вырашальным у імкненьні да гэтай мэты».

Каталіцкая Царква, як адзначыў Пантыфік, прызнае, што карані яе веры зьвязаны з гістарычнай інтэрвенцыяй Бога ў жыцьцё габрэйскага народу: «хрысьціяне з ахвотаю прызнаюць, што іх уласныя карані знаходзяцца ў тым самым аб’яўленьні Бога, якім корміцца рэлігійнае сьведчаньне габрэйскага народа».

Сьвяты Айцец падкрэсьліў, што ў траўні гэтага году ён накіруецца ў Сьвятую Зямлю як пілігрым. «Я маю намер маліцца за каштоўны дар еднасьці і міру, як у гэтым рэгіёне, так і ва ўсёй сусьветнай сям’і чалавецтва»,– паведаміў Папа.

Паводле Catholic.by

Навіны хрысьціянскага сьвету

# У Пінскай семінарыі вывучаюць усходні абрад

**11 лютага 2009 году ў Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай рыма-каталіцкай семінарыі імя сьв. Тамаша Аквінскага ў Пінску ўпершыню была адслужана Боская Літургія ў візантыйскім абрадзе. Многія рыма-каталіцкія семінарысты ўпершыню змаглі ўзяць удзел і на практыцы пазнаёміцца з усходняй літургіяй. Узначальваў набажэнства грэка-каталіцкі сьвятар з Горадні а. Андрэй Крот, з якім саслужылі 6 сьвятароў лацінскага абраду.**



Трэба адзначыць, што ў міжваенны час Пінск быў значным цэнтрам унійнага руху: тут адбываліся Унійныя канферэнцыі, у Пінскай семінарыі быў унійны гурток і асобная бібліятэчка, прысьвечаная Уніі, семінарысты (сярод іх былі і будучыя сьвятары ўсходняга абраду) знаёміліся з усходняй літургікай і багаслоўем, традыцыйнымі былі ўрачыстыя набажэнствы ва ўсходнім абрадзе ў дзень памяці сьв. Андрэя Баболі і сьв. Язафата, а пад Пінскам у Зарэччы (Церабунь) дзейнічаў грэка-каталіцкі жаночы манастыр і парафія.



Для сёньняшніх навучэнцаў старэйшых курсаў Пінскай семінарыі айцец Андрэй Крот прачытаў невялікі курс лекцыяў. На іх семінарысты пазнаёміліся з духоўнай спадчынай хрысьціянскага Ўсходу, паглыбілі свае веды ў галіне візантыйскай літургіі, даведаліся пра дасягненьні ўсходняй тэалогіі і антрапалогіі. Ад часоў хрысьціянскай старажытнасьці існавалі розныя тэалагічныя плыні. На Ўсходзе была прынята канцэпцыя, паводле якой сэнсам прыйсьця Хрыста на зямлю было «абагаўленьне» чалавека – павелічэньне ў ім духоўнага элементу, на што і павінна быць накіравана духоўнае жыцьцё кожнага хрысьціяніна.

**На фота:** *Айцец Андрэй Крот правіць Боскую Літургію паводле ўсходняга абраду для рыма-каталіцкіх семінарыстаў.*

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Кардынал Касьпер: пытаньне адпустаў не павінна быць экуменічнай праблемай

**Пытаньне адпустаў, якія вызначае Сьвяты Айцец на юбілейныя гады, надалей выклікае непаразуменьні на шляху экуменічных адносінаў. Аднак Год сьвятога Паўла, які яшчэ працягваецца і падчас якога таксама можна атрымаць адпусты, зьяўляецца нагодай для таго, каб высьветліць падобныя непаразуменьні.**

Пра гэта піша кардынал Вальтэр Касьпер у сваім артыкуле «Год сьвятога Паўла і пытаньне адпустаў: дапамога ў еднасьці хрысьціянаў» у ватыканскім штотыднёвіку «L'Osservatore Romano».

Старшыня Папскай Рады спрыяньня хрысьціянскай еднасьці нагадвае, што ў 1517 г. пратэст Марціна Лютэра супраць злоўжываньня адпустамі стаў прычынай Рэфармацыі. Аднак сёньняшняя практыка адпустаў ня мае нічога агульнага з тагачаснай «купляй адпустаў». Яна паходзіць ад традыцыі ўчынкаў пакуты ў першых хрысьціянаў, якія выконвалі іх не паасобку, а пры дапамозе ўсёй супольнасьці Царквы.

Ужо на Трыдэнцкім саборы ў другой палове XVI ст. было ліквідавана падобнае злоўжываньне. Тэалагічны аспект пытаньня адпустаў высьветлены і ў Апостальскай Канстытуцыі «Indulgentarium doctrina» Паўла VI (1967 г.), якая носіць таксама і экуменічны характар, яна, аднак, сёньня застаецца малавядомай.

«Адпуст нагадвае пра непазьбежнасьць збаўленьня, якое можа зьдзейсьніцца толькі праз Ісуса Хрыста»,– адзначыў кардынал Касьпер.

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Папа пра справу лефэўрыстаў

**Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI узрушаны і занепакоены рэакцыямі, якія выклікала ў Царкве яго рашэньне зьняць экскамуніку з чатырох біскупаў «Брацтва імя сьв. Пія X», якія ў 1988 годзе атрымалі біскупскую сакру бяз згоды Апостальскай Сталіцы.**

Пра гэта Папа піша ў сьпецыяльным лісьце да «братоў біскупаў», які быў абнародаваны 12 сакавіка 2009 году ў Ватыкане. «Удзяленьне біскупскіх сьвячаньняў без папскага мандату нараджае пагрозу схізмы, бо аспрэчвае еднасьць калегіі біскупаў з Папам. Па гэтай прычыне рэакцыяй Царквы павінна быць самая суровая кара –

экскамуніка, каб такім чынам схіліць пакараных асобаў да скрухі і вяртаньня да еднасьці. На жаль, праз дваццаць гадоў пасьля ўдзяленьня сакры гэтай мэты дасягнуць не ўдалося. Зьняцьце экскамунікі скіравана да той жа мэты, што і пакараньне ёю: паўторнае заахвочваньне чатырох біскупаў да вяртаньня. Гэты жэст стаў магчымым у тую хвіліну, калі зацікаўленыя выказалі прызнаньне Папы і яго пастырскай улады, хоць і з агаворкамі адносна паслухмянасьці дактрынальнай уладзе Папы і Сабора», – растлумачыў сваё рашэньне Бенядыкт XVI.

Наша вера

# Пасланьне да Народу Божага па заканчэньні Сіноду пра Слова Божае

*Прапануем другую частку тэксту Пасланьня Сіноду Біскупаў да Народу Божага пра Слова Божае па заканчэньні XII чарговай генеральнай Асамблеі, ухваленага на 21-й агульнай кангрэгацыі (пачатак у газеце «Царква», № 4 (59), 2008) .*

**III. Дом слова: Царква**

Падобна таму, як боская мудрасьць у Старым запавеце збудавала сабе дом у горадзе мужчын і жанчын, абапёршы яго на сем слупоў (пар. Высл 9, 1), таксама і Слова Божае мае свой дом у Новым Запавеце: менавіта Царква, узорам для якой зьяўляецца супольнасьць-маці Ерусаліму і якая заснавана на Пятру і апосталах, сёньня, праз біскупаў у сулучнасьці з пераемнікам Пятра, па-ранейшаму захоўвае, абвяшчае і тлумачыць слова Божае (пар. Lumen gentium, 13). У Дзеях Апосталаў (Дз 2, 42) Лукаш пазначае архітэктуру гэтага дому, заснаваную на чатырох духоўных слупах: «І яны ўвесь час заставаліся ў навуцы апосталаў і ў супольнасьці, ламаньні хлеба і ў малітвах».

**7.** Гэта, перш за ўсё, апостальскае didache, гэта значыць пропаведзь Слова Божага. Апостал Павел навучае нас: «Такім чынам, вера ад слуханьня, а слуханьне – ад слова Божага» (Рым 10:17). З Царквы зыходзіць голас вяшчальніка, які прапануе ўсім керыгму, гэта значыць галоўную і асноватворную вестку, якую Сам Ісус абвясьціў у пачатку Свайго грамадзкага служэньня: «Споўніўся час і наблізілася Валадарства Божае: пакайцеся і веруйце ў Дабравесьце» (Мк 1, 15). Апосталы, абвясьціўшы сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста, нясуць вестку пра пачатак Валадарства Божага, гэта значыць пра вырашальнае боскае ўмяшаньне ў гісторыю чалавецтва: «Бо няма іншага імя пад небам, дадзенага людзям, у якім маглі б мы збавіцца» (Дз 4,12). Хрысьціянін сьведчыць пра гэтую надзею «з лагоднасьцю і страхам, маючы добрае сумленьне», гатовы, аднак, цярпець і, магчыма, быць прыніжаным праз адпрэчваньне і ганеньні, ведаючы, што «лепш пацярпець за добрыя дзеі, чым за благія» (1 Пт 3, 16-17).
---------------------
**Цытата:** "У доме Слова Божага мы сустракаемся таксама з братамі і сёстрамі з іншых Цэркваў і царкоўных Супольнасьцяў, якія, няхай нават ва ўмовах усё яшчэ існага падзелу, разам з намі шануюць і любяць Слова Божае, якое ёсьць пачаткам і крыніцай першапачатковай і рэальнай еднасьці, хоць і няпоўнай"
---------------------
Затым у Царкве гучыць катэхеза: яна прызначана для паглыбленьня ў хрысьціяніне «тайны Хрыстовай у сьвятле Слова, каб увесь чалавек быў прасьветлены ім» (Ян Павел II, Catechesi tradendae, 20). Але вяршыня дабравешчаньня ёсьць у пропаведзі, якая і сёньня для шматлікіх хрысьціянаў зьяўляецца найважнейшым момантам сустрэчы са Словам Божым. У гэтым акце сьвятар павінен ператварацца нават у прарока. Зразумелай, выразнай і зьмястоўнай мовай, а ня толькі ўладаю, ён павінен «абвяшчаць вялікія дзеі Божыя ў гісторыі збаўленьня» (Sacrosanctum Concilium, 35), якія раскрываюцца спачатку праз выразнае і жывое прачытаньне прапанаванага літургіяй біблійнага тэксту, але ён таксама павінен рабіць гэта і ў час і ў моманты, калі перажываюць іх слухачы, ды выклікаць у іхніх сэрцах пытаньне навяртаньня і жыцьцёвага заданьня: «Што нам рабіць?» (Дз 2, 37).

Вось жа абвяшчэньне, катэхеза і пропаведзь азначаюць чытаньне і разуменьне, тлумачэньні і высьвятленьне, удзел розуму і сэрца. Такім чынам, у пропаведзі адбываецца падвойная дзея. З дапамогаю першай дзеі заглыбляюцца ў карані сьвятых тэкстаў, падзеяў, так званых генератараў гісторыі збаўленьня, каб зразумець іх сэнс і іх пасланьне. З дапамогаю другой дзеі пагружаюцца ў сучаснасць, у сёньняшні дзень таго, хто слухае і чытае, заўсёды ў сьвятле Хрыста, які ёсьць пуцяводнай ніткай, прызначанай аб’ядноўваць Пісаньні. Гэта тое,

што рабіў Сам Ісус, як было ўжо сказана, па дарозе з Ерусаліму ў Эмаўс у кампаніі двух Сваіх вучняў. Гэта тое, што зробіць дыякан Піліп на шляху з Ерусаліму ў Газу, калі распачне гэты сымбалічны дыялог з эфіёпскім вяльможам: «Ці разумееш, што чытаеш?... Як магу разумець, калі хто не настаўіць мяне?» (Дз 8, 30-31). І мэтай стане поўная сустрэча з Хрыстом у таемстве. Такім чынам, паўстае другі слуп, на які абапіраецца Царква, дом Божага слова.

**8.** Гэта ёсьць ламаньне хлеба. У якасьці прыкладу давайце ізноў зьвернемся да дзеі ў Эмаўсе (пар. Лк 24, 13-35): у ёй паказваецца тое, што адбываецца кожны дзень у нашых цэрквах: пасьля пропаведзі Ісуса пра Майсея і прарокаў ідзе, за трапезай, ламаньне Еўхарыстычнага Хлеба. Менавіта гэта зьяўляецца момантам інтымнага дыялогу Бога са Сваім народам, актам новага запавету, што запячатаны крывёю Хрыста (пар. Лк 22, 20), вышэйшай дзеяй Слова, якое прапануе сябе ў якасьці ежы ў Сваім, прынесеным у ахвяру целе, крыніцай і вяршыняй місіі Царквы. Евангельскі расповед пра Тайную вячэру, успамін аб Хрыстовай ахвяры, што абвяшчаецца падчас еўхарыстычнага служэньня з заклiканьнем Сьвятога Духу, становіцца падзеяй і таемствам. Менавіта таму Другі Ватыканскі сабор, у адным з вельмі глыбокіх па зьмесьце ўрыўкаў, заяўляў: «Царква заўсёды ўшаноўвала Боскае Пісаньне, як і Самое Цела Гасподняе, ніколі не перастаючы, асабліва на Боскай Літургіі, карміцца хлебам жыцьця ад спажываньня як Слова Божага, так і Цела Хрыстова, і даваць яго вернікам» (Dei Verbum, 21). Таму належыць вярнуць у цэнтр хрысьціянскага жыцьця «літургію слова і літургію Еўхарыстыі, якія так цесна зьвязаныя паміж сабою, што складаюць адзіны акт богашанаваньня» (Sacrosanctum Concilium, 56).

**9.** Трэці слуп духоўнага будынку Царквы, дома Слова – малітвы, вытканыя, як нагадваў сьвяты Павел, з «псальмаў, усхваленьняў і духоўных песень» (Кал 3, 16). Асаблівае месца займае, натуральна, літургія Гадзін, малітва Царквы, прызначаная задаваць рытм дням і перыядам хрысьціянскага году, прапаноўваючы, асабліва ў чатырохтыднёвай Псалтыры, штодзённую духоўную ежу вернікам. Поруч з ёй і з грамадзкімі літургіямі Слова, традыцыя ўвяла практыку Lectio Divina – малітоўнага чытаньня ў Сьвятым Духу, якое здольнае адкрыць верніку скарб Слова Божага, а таксама прывесьці да сустрэчы з Хрыстом, жывым боскім словам.

Гэтая практыка пачынаецца з чытаньня (lectio) тэксту, і гэты працэс выклікае пытаньне пра сапраўднае веданьне яго рэальнага зьместу: што гаворыць біблійны тэкст сам па сабе? Затым ідзе разважаньне (meditatio), падчас якога паўстае пытаньне: што гаворыць біблійны тэкст нам? Такім чынам, мы падыходзім да малітвы, якая прадугледжвае яшчэ адно пытаньне: што мы гаворым Госпаду ў адказ на Яго слова? І ўрэшце падыходзім да сузіраньня (contemplatio), на працягу якога мы прымаем як дар ад Бога Яго погляд у меркаваньні на рэальнасьць, і тады мы задаем сабе пытаньне: якога навяртаньня розуму, сэрца і жыцьця просіць у нас Госпад?

Перад вернікамі, якія з глыбокай пашанай чытаюць Слова Божае, у думках паўстае вобраз Марыі, Маці Госпада, якая «захоўвала ўсе словы гэтыя, складаючы ў сэрцы Сваім» (Лк 2, 19; пар. 2, 51), гэта значыць, як гаворыцца ў грэцкім арыгінале, знаходзячы галоўны вузел, які яднае, здавалася б, розныя падзеі, дзеяньні і рэчы ў вялікую боскую задуму. Альбо перад вачамі вернікаў, якія чытаюць Біблію, можа ўзьнікаць прыклад Марыі, сястры Марты, што сядзела ля ног Госпада, слухаючы Яго слова, не дазваляючы зьнешнім хваляваньням ахапіць душу, займаючы тую прастору, якая павінна заставацца заўсёды свабоднай для «добрай часткі» – прасторы, якой мы ніколі не павінны пазбаўляцца (гл. Лк 10, 38-42).

**10.** Вось мы, урэшце, перад апошнім слупом, на якім трымаецца Царква – дом Слова: гэта koinonia, братэрскае сумоўе, як па-іншаму называюць agape, што значыць хрысьціянская любоў. Як нагадваў Ісус, каб стаць Яго братамі і сёстрамі, трэба быць тымі, «хто слухае слова Божае і выконвае яго» (Лк 8, 21). Сапраўднае слуханьне – у паслушэнстве і дзеяньні, яно павінна даць заквітнець у жыцьці справядлівасьці і любові, каб несьці ў жыцьці і ў грамадстве сьведчаньне, якое працягвае лінію заклiку прарокаў, якія ўвесь час спалучалі Слова Божае і жыцьцё, веру і справядлівасьць, пакланеньне Богу і абавязак у дачыненьні да грамадства. Гэта неаднаразова паўтараў Ісус, пачынаючы ад знакамітага навучаньня з Нагорнай пропаведзі: «Ня ўсякі, хто кажа Мне: «Госпадзе! Госпадзе!» увойдзе ў Валадарства нябеснае, але той, хто выконвае волю Айца Майго, які ёсьць у небе» (Мц 7, 21). У гэтых словах нібы адгукаецца рэхам боскае слова, укладзенае ў вусны Ісаі: «Гэтыя людзі набліжаюцца да Мяне адно ў словах сваіх, і вуснамі сваім славяць Мяне, сэрца ж іх далёка ёсьць ад Мяне» (Іс 29, 13). Гэтыя павучаньні скіраваныя таксама і да Цэркваў, калі яны ня ёсьць верныя паслухмянаму слуханьню Слова Божага.

Такім чынам, Слова Божае павінна быць заўважнае і лёгка чытэльнае ўжо ў абліччы і ў руках верніка, як гаварыў сьвяты Рыгор Вялікі, які бачыў у сьвятым Бенядыкце і ў іншых вялікіх людзях Божых, сьведках сулучнасьці з Богам і з братамі,– Слова Божае, увасобленае ў жыцьцё. Праведны і верны чалавек ня толькі «тлумачыць» Пісаньні, але і «раскрывае» яго перад усімі як жывую і дзейную рэальнасьць. Менавіта таму viva lectio, vita bonorum – жыцьцё праведнікаў – зьяўляецца жывым чытаньнем /лекцыяй боскага слова. Яшчэ сьвяты Ян Залатавусны адзначаў, што апосталы сыйшлі з Галілейскай гары ў Галілею, дзе яны сустрэлі

Ўваскрослага, без якіх-небудзь каменных табліцаў, як гэта адбылося з Майсеем: іх уласнае жыцьцё павінна была стаць з таго моманту жывым Евангельлем.

У доме Слова Божага мы сустракаемся таксама з братамі і сёстрамі з іншых Цэркваў і царкоўных Супольнасьцяў, якія, няхай нават ва ўмовах усё яшчэ існага падзелу, разам з намі шануюць і любяць Слова Божае, якое ёсьць пачаткам і крыніцай першапачатковай і рэальнай еднасьці, хоць і няпоўнай. Гэтая сувязь павінна заўсёды ўмацоўвацца шляхам ажыцьцяўленьня сумесных біблійных перакладаў, распаўсюджваньня сьвятых тэкстаў, біблійнай экуменічнай малітвы, экзэгетычнага дыялогу, вывучэньня і параўнаньня розных тлумачэньняў Сьвятых Пісаньняў, абмену каштоўнасьцямі, якія ўласцівыя розным духоўным традыцыям, сумеснага абвяшчэньня сьведчаньня пра Слова Божае ў секулярызаваным сьвеце.

**IV. Шляхі слова: Місія**

«Ад Сыёну выйдзе закон, і слова Гасподняе – з Ерусаліму» (Іс 2, 3). Персаніфікаванае Слова Божае «выходзіць» з свайго дому, храму, і ідзе па дарогах сьвету, каб сустрэць вялікую пілігрымку, якую распачалі народы зямлі ў пошуках ісьціны, справядлівасьці і міру. Сапраўды, нават у сучасным секулярызаваным горадзе, на яго плошчах і вуліцах, дзе, падаецца, пануюць нявера і абыякавасьць, дзе зло, як здаецца, пераважае над дабром, ствараючы ўражаньне пра перамогу Вавілону над Ерусалімам, існуе ўтоеная смага, зародак надзеі, трапятаньне чаканьня. Як гаворыцца ў Кнізе прарока Амоса, «вось настаюць дні, кажа Госпад Бог, калі Я пашлю на зямлю голад,– ня голад хлеба, ня смагу вады, але смагу слуханьня словаў Гасподніх» (Ам 8, 11). Царква хоча даць адказ на гэтую смагу сваёй евангелізатарскай місіяй.

Таксама і ўваскрослы Хрыстос заклікае апосталаў, што знаходзяцца ў нерашучасьці, выйсьці за межы прасторы, у якой яны пачуваліся абароненымі: «Дык ідзеце, навучайце ўсе народы, …вучачы іх выконваць усё, што Я загадаў вам» (Мц 28, 19-20). Біблія мае шмат заклікаў «не маўчаць», «крычаць з сілаю», «прапаведаваць слова ў час спрыяльны і не спрыяльны», быць ранішняй вартай, якая разьдзірае маўчаньне абыякавасьці. Цяпер перад намі адчыняюцца новыя дарогі, а ня толькі тыя, па якіх хадзіў сьвяты Павел або першыя евангелісты і, усьлед за імі, усе місіянеры, якія адпраўляліся да людзей у далёкіх землях.

**11.** Камунікацыя разгарнула сёньня сетку, якая ахоплівае ўвесь зямны шар, і словы Хрыста: «Што кажу вам у цемры, кажэце пры сьвятле; і што на вуха чуеце, прапаведуйце на дахах» (Мц 10, 27), атрымліваюць новы сэнс. Вядома, сьвятое слова павінна найперш зьзяць і распаўсюджвацца праз друкаваны тэкст, праз пераклады, выкананыя згодна пярэстай шматстайнасьці моваў нашай планеты. Але голас боскага слова павінен гучаць таксама і праз радыё, інфармацыйныя артэрыі сеткі Інтэрнэту, праз віртуальныя каналы распаўсюджваньня «on line», CD, DVD, падкастаў ды інш. Ён мусіць быць на тэлевізійных і кінаэкранах, у прэсе, а таксама ў культурных і сацыяльных падзеях.

Гэтыя новыя (у параўнаньні з традыцыйнымі) сродкі камунікацыі стварылі сваю ўласную асаблівую і выразную мову, і, такім чынам, для рашэньня гэтай задачы неабходна быць падрыхтаванымі ня толькі тэхнічна, але і ў культурным плане. Нават у эпоху перавагі зрокавых вобразаў, якія прапануюцца асабліва такім гегемонам сродкаў камунікацыі, якім зьяўляецца тэлевізія, знакавай і запамінальнай застаецца мадэль, якой аддае перавагу Хрыстос. Ён зьвяртаўся да сымболікі, аповеду, прыкладу, паўсядзённага досьведу, прыпавесьці: «І павучаў іх шмат прыпавесьцямі …і бяз прыпавесьці не гаварыў ім» (Мц 13: 3, 34). Абвяшчаючы Валадарства Божае, Ісус ніколі не гаварыў вышэй людзкога разуменьня нявызначанай, абстрактнай або незямной мовай, але скараў іх, зыходзячы ад зямлі, па якой хадзілі іх ногі, каб прывесьці іх ад штодзённасьці да адкрыцьця Валадарства нябеснага. Такім чынам, становіцца знамянальнай сцэна, расказаная Янам: «Некаторыя з іх жадалі схапіць Яго; але ніхто не наклаў на Яго рук. І вось, служкі вярнуліся да першасьвятароў і фарысеяў, і гэтыя сказалі ім: чаму вы не прывялі Яго? Служкі адказвалі: ніколі чалавек не гаварыў так, як Гэты Чалавек» (Ян 7, 44-46).

**12.** Хрыстос ідзе па вуліцах нашых гарадоў і спыняецца ля парогаў нашых дамоў: «Вось, стаю каля дзьвярэй і стукаюся: калі хто пачуе голас Мой і адчыніць дзьверы, увайду да яго, і буду вячэраць з ім, і ён са Мною» (Адкр 3, 20). Сям’я, што схавалася за сьценамі дамоў са сваімі радасьцямі і драмамі, ёсьць галоўнай прасторай, у якую трэба ўвесьці Слова Божае. Біблія ўся насычана малымі і вялікімі сямейнымі гісторыямі, і Псалмасьпеўца з жвавасьцю паказвае спакойную карціну бацькі, які сядзіць за трапезай, у асяроддзі сваёй жонкі, падобнай да «лазы пладавітай», і дзяцей, «галінак аліўкавых» (Пс 127). Першыя хрысьціяне служылі літургію ў абстаноўцы хатняй штодзённасьці, падобна таму, як Ізраіль давяраў сям’і спраўляць Пасху (пар. Вых 12, 21-27). Перадача Слова Божага адбываецца менавіта ад пакаленьня да пакаленьня, так што бацькі становяцца «першымі вяшчальнікамі веры» (*Lumen gentium*, 11). Псалмасьпеўца таксама нагадвае: «Што мы чулі і што ўведалі, і што айцы нашыя расказалі нам, не схаваем перад іхнімі сынамі, раскажам будучаму

пакаленьню пра хвалу Госпада і магутнасьць Ягоную, пра цуды, якія Ён учыніў, ...каб прышлае пакаленьне – сыны, што маюць нарадзіцца,– ведала і ў свой час расказала дзецям сваім» (Пс 77: 3-4, 6).

Вось жа, у кожным доме мусіць быць свая Біблія, якую трэба дастойна захоўваць, чытаць яе і маліцца з ёй; сям'я павінна прапанаваць формы і мадэлі малітоўнага, катэхетычнага і дыдактычнага выхаваньня ў тым, што датычыць выкарыстаньня Сьвятога Пісаньня, каб «юнакі і дзяўчаты, старыя і дзеці» (Пс 148, 12) слухалі Слова Божае, разумелі і ўсхвалялі яго, жылі ім. Асабліва новыя пакаленьні – дзеці і моладзь – павінны стаць аб'ектам асаблівай педагогікі, якая дапаможа ім убачыць прыгажосьць асобы Хрыста ды адкрыць іх розумы і сэрцы таксама праз сустрэчу і праўдзівае сьведчаньне дарослых, станоўчы ўплыў сяброў і вялікай сям'і царкоўнай супольнасьці.

**13.** Ісус у Сваёй прыпавесьці пра сейбіта нагадвае нам аб тым, што ёсьць землі засушлівыя, камяністыя, зарослыя цернем (пар. Мц 13, 3-7). Ідучы па дарогах сьвету, мы адкрываем таксама, што існуюць трушчобы, дзе пасяліліся пакуты і беднасьць, зьневажаньне і прыгнёт, маргіналізацыя і галеча, фізічныя і псіхічныя хваробы ды адзінота. Часта мы бачым, што камяні на дарогах пабарваваныя крывёю войнаў і насільля, у палацах улады карупцыя разам з несправядлівасьцю. Мы чуем крык гнаных за вернасьць свайму сумленьню і сваёй веры. Нам сустракаюцца людзі, зламаныя жыцьцёвым крызісам, або з душой, пазбаўленай галоўнага, што надавала б сэнс і значэньне самому жыцьцю. Многім людзям, што падобныя «на цень, што мінае» (Пс 38, 7), дзе дагасае дыханьне, нават падаецца, што над імі навісла маўчаньне Бога, яго ўяўная адсутнасьць і абыякавасьць: «Дакуль, Госпадзе? Ці ж забудзешся на мяне зусім? Дакуль хаваць перада мною будзеш твар Твой?» (Пс 13, 2). А ў канцы перад усімі паўстае таямніца сьмерці. Гэтая вялізная хваля пакуты, што ўздымаецца ад зямлі да неба, увесь час паказваецца ў Бібліі, яна прапануе менавіта гістарычную і ўвасобленую веру. Досыць успомніць пра старонкі, адзначаныя насільлем і прыгнётам, горкім і бесьперапынным лямантам Ёва, палкімі малітвамі Псальмаў, тонкім унутраным крызісам, які ахапіў душу Эклезіяста, магутнымі прароцкімі абвінавачаньнямі супраць сацыяльнай несправядлівасьці. Таксама без зьмякчэньня паказана асуджэньне радыкальнага граху, які выяўляецца ва ўсёй яго разбуральнай сіле ад самога пачатку чалавецтва ў фундаментальным тэксьце Быцьця (Быц 3). Сапраўды, «тайна беззаконьня» прысутнічае і дзейнічае ў гісторыі, але яна раскрыта Словам Божым, якое гарантуе ў Хрысьце перамогу дабра над злом.

Але дамінуючай у Сьвятых Пісаньнях зьяўляецца асоба Хрыста, Які распачынае Сваё публічнае служэньне з абвяшчэньня надзеі для тых, якія церпяць на зямлі: «Дух Госпадні на Мне; бо Ён памазаў Мяне дабравесьціць убогім, і паслаў Мяне ацаляць скрушлівых сэрцам, прапаведаваць палонным вызваленьне, сьляпым прасьвятленьне, адпусьціць спакутаваных на свабоду, прапаведаваць год Госпадняй ласкі» (Лк 4, 18-19). Ён ізноў і ізноў ускладае рукі на хворага або пракажонага, Яго словы абвяшчаюць справядлівасьць, дадаюць мужнасьці няшчасным, даруюць прабачэньне грэшнікам. Ён Сам стаўся падобны ім, «прынізіўшы Сябе» ў Сваёй славе, «прыняўшы вобраз слугі, зрабіўшыся падобным да людзей, ...упакорыў Сябе, стаўшыся паслухмяным аж да сьмерці, і сьмерці крыжовай» (Флп 2, 7-8).

Так, Ён мае страх сьмерці («Ойча! Калі Ты хочаш, пранясі чашу гэтую міма Мяне!»), Ён адчувае адзіноту пасьля таго, як Яго пакінулі і здрадзілі сябры, праз укрыжаваньне Ён апускаецца ў змрок страшнага фізічнага болю і нават у цемру маўчаньня («Божа мой, Божа мой, чаму Ты Мяне пакінуў?»), і дасягае апошняй бездані кожнага чалавека – бездані сьмерці («закрычаўшы гучным голасам, аддаў дух»). Да Яго сапраўды можна ўжыць азначэньне, якое Ісая даў слузе Госпадняму: «муж болесьці, які зьведаў цярпеньні» (Іс 53, 3).

---------------------

**Цытата:** "Засяродзімся ж у цішы, каб, поўныя глыбокай пашаны, маглі ўслухоўвацца ў слова Госпада, ды захавайма ж гэтую цішу пасьля слуханьня, каб яно магло і далей знаходзіцца ў нас, жыць у нас і размаўляць з намі. Давайце дадзім яму гучаць на пачатку нашага дня, каб у Бога было першае слова, і дамо яму адгукнуцца ў нас увечары, каб і апошняе слова было словам Божым"

---------------------

Але нават у гэты найвышэйшы момант цярпеньняў Ён не перастае быць Сынам Божым: Сваёй спагадлівасьцю і любоўю, Сваёй Ахвяраю Ён уклаў у абмежаванасьць і зло чалавецтва насеньне боскасьці, гэта значыць, аснову вызваленьня і збаўленьня; праз Свой дар Сябе нам Ён выпраменьвае сьвятло адкупленьня на боль і сьмерць, якія прыняў і перажыў Сам, ды адкрывае таксама і для нас сьвітанак уваскрасеньня. Таму перад хрысьціянінам стаіць місія абвяшчаць гэтае боскае слова надзеі, каб дзяліцца ім з беднымі і спакутаванымі ды сьведчыць аб сваёй веры ў Валадарства ісьціны і жыцьця, сьвятасьці і ласкі Божай, справядлівасьці, любові і супакою, праз брацкую любоў, якая ня судзіць і не асуджае, але падтрымлівае, суцяшае і прабачае ў поўнай згодзе са словамі Хрыста: «Прыйдзіце да Мяне ўсе струджаныя і прыгнечаныя, і Я супакою вас» (Мц 11, 28).

**14.** На дарогах сьвету слова Божае прыводзіць нас, хрысьціянаў, да поўнай глыбокага значэньня сустрэчы з

юдэйскім народам, з якім мы шчыльна зьвязаныя праз агульнае прызнаньне і любоў да сьвятых тэкстаў Старога Запавету, бо «ад іх Хрыстос па плоці» (Рым 9, 5), ад Ізраіля. Усе сьвятыя юдэйскія тэксты асьвятляюць тайну Бога і чалавека, адкрываюць скарбы думкі і маралі, акрэсьліваюць доўгі шлях гісторыі збаўленьня да яго поўнага ажыцьцяўленьня, услаўляючы ўцелаўленьне Божага слова ў чалавечай гісторыі. Яны дазваляюць нам у поўнай меры зразумець асобу Хрыста, які заявіў: «Ня думайце, што Я прыйшоў зруйнаваць закон або прарокаў: не зруйнаваць прыйшоў Я, але выканаць» (Мц 5, 17); яны ёсьць шляхам дыялогу з абраным народам, які атрымаў ад Бога «ўсынаўленьне і славу, запаветы і заканадаўства, служэньне і абяцаньне» (Рым 9, 4), дазваляюць нам узбагаціць нашае тлумачэньне Сьвятых Пісаньняў багатымі рэсурсамі юдэйскай экзэгетычнай традыцыі.

«Бласлаўёны народ Мой, Егіпцяне, і дзея рук Маіх – Асірыйцы, і спадчына Мая – Ізраіль» (Іс 19, 25). Госпад распасьцірае ахоўнае покрыва Свайго бласлаўленьня над усімі народамі зямлі, жадаючы, «каб усе людзі збавіліся і дасягнулі спазнаньня ісьціны» (1 Цім 2, 4). Таксама і мы, хрысьціяне, ідучы па дарогах сьвету, закліканыя, не ўпадаючы пры гэтым у сінкрэтызм, што азмрочвае і прыніжае нашую ўласную духоўную ідэнтычнасьць, уступаць у паважлівы дыялог з мужчынамі і жанчынамі з іншых рэлігіяў, якія слухаюць і аддана выконваюць указаньні сваіх сьвятых кніг, пачынаючы ад ісламу, які ўвабраў у сваёй традыцыі незьлічонае мноства біблійных вобразаў, сымбаляў і тэмаў, і які дае нам сьведчаньне шчырай веры ў адзінага Бога, спачувальнага і міласэрнага, Творцы ўсяго існага і Суддзі чалавецтва.

Акрамя таго, хрысьціянін павінен знаходзіць таксама агульную згоду з вялікімі рэлігійнымі традыцыямі Ўсходу, якія ў сваіх сьвятых тэкстах вучаць нас пашане жыцьця, сузіраньню, маўчаньню, прастаце, адрачэньню, як гэта ёсьць у будызме. Або, як у індуізме, вучаць глыбока шанаваць пачуцьцё сьвятасьці, ахвярнасьці, паломніцтва, пост, сьвятыя сымбалі. Або яшчэ, як у канфуцыянстве, вучаць мудрасьці, сямейным і сацыяльным каштоўнасьцям. Таксама і да традыцыйных рэлігіяў з іх духоўнымі каштоўнасьцямі, што выяўляюцца ў абрадах і ў вуснай культуры, давайце паказваць нашую шчырую ўвагу і весьці з імі паважлівы дыялог. І нават з тымі, хто ня верыць у Бога, але спрабуе «дзейнічаць справядліва, любіць справы міласэрнасьці і пакорнамудра хадзіць перад Богам» (Міх 6, 8), мы павінны разам працаваць дзеля больш справядлівага і мірнага сьвету ды прапаноўваць у дыялогу нашае сапраўднае сьведчаньне аб Слове Божым, якое можа адкрыць ім новыя і больш шырокія гарызонты ісьціны і любові.

**15.** У сваім Пасланьні да мастакоў (1999) Ян Павел II нагадаў, што «Сьвятое Пісаньне стала свайго роду «вялізным слоўнікам» (Поль Клаодэль) і «іканаграфічным атласам» (Марк Шагал), з якіх чэрпалі культура і хрысьціянскае мастацтва» (№ 5). Гётэ быў перакананы ў тым, што Евангельле зьяўляецца «роднай мовай Еўропы». Біблія, як сёньня звычайна гавораць, зьяўляецца «вялікім кодам» усеагульнай культуры: мастакі, кажучы вобразна, абмаквалі свае пэндзлі ў гэтую вельмі каляровую азбуку гісторыяў, сымбаляў, вобразаў, якімі зьяўляюцца біблійныя старонкі; музыкі чэрпаюць натхненьне з сьвятых тэкстаў, асабліва Псальмаў, вытканых з гармоніі; пісьменьнікі стагоддзямі ўзнаўлялі гэтыя старажытныя апавяданьні, якія станавіліся знакавымі прыпавесьцямі; паэты задавалі сабе пытаньні пра тайны духу, пра вечнасьць, пра зло, пра любоў, пра сьмерць і пра жыцьцё, часта пераймаючы ўзьнёслае трымценьне, што ажыўляе біблійныя старонкі; мысьляры, людзі навукі, ды і само грамадзтва, нярэдка прымалі ў якасьці эталону, няхай нават толькі для канфрантацыі, духоўныя і этычныя канцэпцыі (напрыклад, Дэкалог) Слова Божага. Нават калі вобраз або ідэя, што прысутнічае ў Сьвятым Пісаньні, дэфармаваліся, яна прызнавалася як тая, што мае важнае значэньне ды ўтваральная для нашай цывілізацыі.

Вось чаму Біблія, якая паказвае нам таксама via pulchritudinis, гэта значыць, шлях прыгажосьці да разуменьня і спасьціжэньня Бога («Сьпявайце Богу нашаму, сьпявайце!», заклікае нас Псальм 46, 8), неабходная ня толькі для вернікаў, але і для ўсіх, каб нанова адкрыць для сябе сапраўдныя значэньні розных культурных праяваў і, перш за ўсё, каб адшукаць нашую ўласную гістарычную, грамадзянскую, чалавечую і духоўную ідэнтычнасьць. У ёй – у Бібліі – вытокі нашае велічы, і менавіта дзякуючы ёй мы можам паказаць сябе з вельмі каштоўнай спадчынай іншым цывілізацыям і культурам, без якога-небудзь комплексу непаўнавартаснасьці. Вось чаму Біблія павінна прызнавацца і вывучацца ўсімі з гэтага ўнікальнага пункту гледжаньня прыгажосьці і чалавечай ды культурнай плённасьці.

Тым ня менш, Слова Божае, якое, карыстаючыся яскравым вобразам сьв. Паўла – «немагчыма зьвязаць» (2 Цім 2, 9),– не прывязана да нейкай адной культуры; больш таго, яно імкнецца пераадолець межы, і той жа апостал Павел быў выключным майстрам інкультурацыі біблійнага пасланьня ў новыя культурныя каардынаты. Менавіта гэтая Царква пакліканая рабіць таксама і сёньня, праз цяжкі, але неабходны працэс, які атрымаў магутны імпульс з навучаньня Папы Бенядыкта XVI. Яна павінна даць пранікнуць Слову Божаму ў мноства культур і выказаць сябе на іх мовах, іх уяўленьнях, іх сымбалях і іх рэлігійных традыцыях. Але яна павінна заўсёды ўмець захоўваць праўдзівую сутнасьць свайго зьместу, назіраючы і кантралюючы

магчымасьць узьнікненьня рызыкі выраджэньня. Вось жа, Царква павінна зрабіць, каб зазьзялі каштоўнасьці, якія Слова Божае прапануе іншым культурам, так, каб гэтыя культуры былі ачышчаныя імі і аплодненыя. Як сказаў Ян Павел II епіскапату Кеніі падчас сваёй паездкі ў Афрыку ў 1980 годзе, «інкультурацыя становіцца сапраўды адлюстраваньнем уцелаўленьня Слова, калі культура, перамененая і нанова народжаная Дабравесьцем, паказвае ва ўласнай традыцыі першасныя праявы хрысьціянскага жыцьця, праслаўленьня, думкі».

**Заключэньне**

«І голас, які я чуў з неба, зноў пачаў гаварыць са мною і сказаў: ідзі, вазьмі разгорнутую кніжку з рукі ў анёла, які стаіць на моры і на зямлі. І я пайшоў да анёла і сказаў яму: дай мне кніжку. Ён сказаў мне: бяры і спажывай яе; яна будзе горкая ў чэраве тваім, але ў вуснах тваіх будзе салодкая, як мёд. І ўзяў я кніжку з рукі анёла і спажыў яе; і яна ў вуснах маіх была салодкая, як мёд; а калі спажыў яе, дык горка зрабілася ў чэраве маім». (Адкр 10, 8-10).

Браты і сёстры ўсяго сьвету, прымем жа і мы гэты заклік; будзем прыступаць да спажываньня Слова Божага, так, каб сілкавацца і жыць «не адным хлебам…, а ўсім, што сыходзіць з вуснаў Госпада» (Друг 8, 3; Мц 4, 4). Сьвятое Пісаньне, паводле выразу адной з вялікіх постацяў хрысьціянскай культуры, «мае адпаведныя ўрыўкі для суцяшэньня ўсіх і ўрыўкі для перасьцярогі ва ўсіх абставінах» (Б. Паскаль, Думкі, п. 532. Выд . Brunschvicg).

Сапраўды, Слова Божае «саладзейшае за мёд, што плыве з сотаў» (Пс 18, 11), яно – «сьветач на шляху маім, і сьвятло на маёй сьцежцы» (Пс 118, 105), але яно таксама «падобнае на агонь» і «падобнае на молат, які разьбівае скалу» (Ер 23, 29). Яно як дождж, які напойвае зямлю, робіць яе ўрадлівай і здольнай даваць парасткі, прымушаючы, такім чынам, заквітнець нават засушлівую глебу нашай духоўнай пустыні (пар. Іс 55, 10-11). Але яно таксама «жывое і дзейснае і вастрэйшае за ўсякі меч двухбакававостры: яно пранікае да разьдзяленьня душы і духу, суглобаў і мозгу, і судзіць помыслы і намеры сардэчныя» (Габр 4, 12).

Наш позірк зьвяртаецца з любоўю да ўсіх навукоўцаў, катэхізатараў і іншых служкаў Слова Божага, каб выказаць ім нашу самую глыбокую і сардэчную падзяку за іх каштоўнае і важнае служэньне. Мы зьвяртаемся таксама да нашых братоў і сёстраў, якіх перасьледуюць або аддаюць на сьмерць з-за Слова Божага і за сьведчаньне, якое яны даюць Госпаду Ісусу Хрысту (пар. Адкр 6, 9): як сьведкі і мучанікі, яны гавораць нам пра «сілу Божую» (Рым 1, 16), крыніцу іх веры, надзеі і любові да Бога і да людзей.

Засяродзімся ж у цішы, каб, поўныя глыбокай пашаны, маглі ўслухоўвацца ў слова Госпада, ды захавайма гэтую цішу пасьля слуханьня, каб яно магло і далей знаходзіцца ў нас, жыць у нас і размаўляць з намі. Давайце дадзім яму гучаць на пачатку нашага дня, каб у Бога было першае слова, і дамо яму адгукнуцца ў нас увечары, каб і апошняе слова было словам Божым.

Дарагія брат і сёстра! «Вітаюць цябе ўсе, хто са мною. Вітай тых, хто любіць нас у веры. Ласка Госпада з усімі вамі. Амін!» (Ціт 3, 15).

*Пераклад з расейскай І.БАРАНОЎСКАГА*
Паводле сайту Каталіцкай інфармацыйнай службы Agnuz.

Шлях да Бога

# Сустрэча лідараў евангелізацыйных рухаў і супольнасьцяў Беларусі

**7-8 сакавіка 2009 году ў Менску адбылася першая сустрэча кіраўнікоў і аніматараў каталіцкіх рухаў і супольнасьцяў Беларусі, якія працуюць у харызматычным накірунку для евангелізацыі моладзі. У сустрэчы, якая праходзіла ў Чырвоным касьцёле і на Кальварыі, для аб’яднаньня намаганьняў у справе новай евангелізацыі ў Беларусі ды сумеснага праслаўленьня Бога сабраліся прадстаўнікі супольнасьцяў «Via dela Rosa», «Легіён Марыі», «Маран ата» з Берасьця, а таксама «Ааза» з польскага Беластоку.**



Ініцыятарам правядзеньня гэтай сустрэчы выступіла супольнасьць «Каштоўная перла» з Менску, якая дзейнічае пры Чырвоным касьцёле і належыць да міжнароднага каталіцкага руху «Сьвятло і жыцьцё». Яе заснавальнікам зьяўляецца кс. Ірынэй Копач, пад апекай якога вось ужо больш за 16 гадоў «Каштоўная перла» штогод ладзіць евангелізацыйныя 2-дзённыя і 15-дзённыя сустрэчы – «аазы новага жыцьця» і евангелізацыйныя канцэрты.

На сустрэчы прысутнічаў біскуп Антон Дзям'янка, які ўзначальваў ранішнюю малітву, прысутнічаў на выкладах для ўдзельнікаў сустрэчы, а таксама зьвярнуўся да іх з пастырскім словам.

Падобныя сустрэчы прадстаўнікоў супольнасьцяў, якія працуюць для евангелізацыі ў харызматычным руху Беларусі, вырашана праводзіць штогод.

**На фота:** *08.03.2009, Менск. Малітву праслаўленьня ў касьцёле на Кальварыі ўзначальвалі ўдзельнікі супольнасьці "Маран ата" з Берасьця.*

Шлях да Бога

# «Ва ўсякі час маліцеся духам»

**Гэтыя словы з Пасланьня сьв. апостала Паўла да эфэсцаў (Эф 6, 18) сталі эпіграфам Біблійнай сустрэчы, якая адбылася ў нядзелю, 22 лютага 2009 году, у Баранавічах у Доме Сьвятой Тройцы айцоў вярбістаў, а тэма сустрэчы была – жыцьцё і малітва Майсея, вялікага прарока і хадатая Старога Запавету.**



Сустрэчу праводзілі грэка-каталіцкі сьвятар а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця і рыма-каталіцкі сьвятар кс. Эдуард Мігай з Пінску. Для малітвы і разважаньня над Словам Божым сабраліся каля паўсотні вернікаў: з баранавіцкіх рыма-каталіцкіх парафіяў, а таксама вернікі з грэка-каталіцкай парафіі сьв. Кірылы і Мятода. Былі яшчэ і госьці з Менску ды аніматары для працы ў групах з берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя.

Сустрэча пачалася з чытаньня 80-га псальму і сьпеву паводле яго вершаў: «О калі б народ Мой слухаў Мяне і Ізраіль хадзіў Маімі шляхамі!» У ім Гасподзь абяцае Свае блаславеньні тым, хто слухае Ягонае Слова і імкнецца выконваць Ягоныя запаветы. Менавіта дзеля гэтага і сабраліся вернікі абодвух абрадаў у гасьцінным Доме Сьвятой Тройцы.

Потым чыталіся ўрыўкі з кнігаў Старога Запавету – з Кнігі Выхаду, Лікаў, Другога Закону. Майсей – адзіны з габрэйскага народу выхаваны свабодным – прагне вывесьці з рабства свой народ, але як чалавек памыляецца, нават забівае егіпцяніна, пасьля чаго вымушаны жыць у іншай краіне. Але Гасподзь паклікаў Майсея, і ён становіцца прарокам, тым, хто размаўляе з Богам «твар у Твар» і ведае «Ягоныя шляхі»; ён выводзіць габрэяў з ягіпецкага рабства ў «зямлю абяцаную», дае ім, а праз іх і ўсім нам Закон – Дзесяць запаведзяў; і як хадатай за народ гатовы дзеля яго быць нават выкрасьленым з «кнігі жыцьця»...

Сёньня Гасподзь таксама кліча кожнага, няважна, колькі яму гадоў – васямнаццаць ці амаль шэсьцьдзесят, каб стаць свабодным у Богу, маліцца «ва ўсякі час» і дапамагчы тым, хто пакуль яшчэ знаходзіцца ў палоне гэтага сьвету і рабстве граху, каб дайсьці да «абяцанае зямлі» – Божага Валадарства.

Навучаньне сьвятароў і сьведчаньні вернікаў суправаджалі падчас гэтай біблійнай сустрэчы ў Баранавічах узьнёслыя сьпевы на вершы з псальмаў у выкананьні сябраў супольнасьці «Марана та»: «Слухай, Ізраіль», «Узношу з надзеяй вочы», «Радуюцца вусны мае» і інш.

**Надзея Ярмішына**
г.Берасьце

Гасьцёўня

# Шчыра віншуем!

**5 сакавіка 2009 году свой 50-гадовы юбілей адзначыў душпастыр берасьцейскіх грэка-католікаў і**

**галоўны рэдактар газеты «Царква» а. Ігар Кандрацьеў.**

 Айцец Ігар Кандрацьеў нарадзіўся 05.03.1959 у лясах пад Краснаярскам.

Паходзіць з праваслаўна-каталіцкай сям'і, у якой перапляліся расейскія, нямецкія, аўстрыйскія і беларускія карані. Мае жонку Вольгу, якая дапамагае яму ў служэньні як музыкант і рэгент, і двух сыноў – Інакенція (ужо мае сваю сям'ю) і Марка, а таксама ўнучку Міхаліну.

Да 1973 г. жыў у Туле (Расея). У 1982 г. скончыў Сьвярдлоўскі архітэктурны інстытут па сьпецыяльнасьці «Інтэр'еры». Падчас вучобы браў удзел у распаўсюдзе Бібліі, якая ў СССР была пад забаронай.

У 1981-1988 гг. працаваў на працах па рэстаўрацыі храмаў і іканапісцам (створаныя ім іконы знаходзяцца ў многіх храмах у Расеі і Беларусі).

У 1986 г. паступіў у Ленінградзкую духоўную семінарыю. 10.07.1986 архіяпіскап Міхаіл Мудзьюгін удзяліў яму дыяканскія сьвячаньні, а 24.07.1988 рукапаклаў яго на сьвятара. У 1988-1995 гг. выконваў сьвятарскае і місіянерскае служэньне на Поўначы Расеі.

З 1995 г. – у Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве. 05.07.1995 біскуп Івана-Франкоўскі Сафрон Дмытэрка прыняў яго ў Каталіцкую Царкву і прызначыў парахам у Берасьце і душпастырам грэка-католікаў Берасьцейскай вобл. З 1996 г. узначальвае рэдакцыю газеты «Царква». Заснаваў грэка-каталіцкія парафіі і асяродкі ў Берасьці, Івацэвічах, Баранавічах, Пінску, Слоніме і Бярозе.

Стварыў міжпарафіяльную харызматычную супольнасьць «Маран ата», зьяўляецца ініцыятарам розных біблійных і экуменічных сустрэчаў на мясцовым узроўні.

# «Нам трэба быць духова моцнай Царквой»

**Размова супрацоўнікаў рэдакцыі газеты «Царква» з яе галоўным рэдактарам айцом Ігарам Кандрацьевым з нагоды яго 50-гадовага юбілею.**

**– Якое Слова скіраваў Госпад да Вас у дзень юбілею?**

– Гэта былі словы з восьмага разьдзелу з Пасланьня сьвятога апостала Паўла да Рымлянаў. Апостал піша: «Значыць, цяпер тым, хто ў Хрысьце Ісусе, няма ніякага асуджэньня» (Рым 8, 1), і далей разважае пра нашае збаўленьне праз веру ў Ісуса Хрыста. Гэты разьдзел стаў калісьці для Марціна Лютара камнем спатыкненьня, а для мяне стаў натхненьнем, напамінам пра тое, што Бог мяне бясконца любіць, Ён збавіў мяне, дараваў мае правіны, разьлічвае на мяне.

**– Раскажыце, калі ласка, пра Вашыя карані і шлях да Бога.**

– Я нарадзіўся ў Сібіры. Мае продкі былі рэпрэсаваныя і высланыя туды з розных рэгіёнаў Расеі яшчэ да вайны. Па бацькавай лініі, дарэчы, маю продкаў, якіх яшчэ ў 19 стагоддзі выслалі з тэрыторыі Беларусі пасьля аднаго з паўстаньняў. Мама паходзіць з рыма-каталіцкай сям'і з нямецкімі каранямі, бацька – з сям'і праваслаўных сьвятароў, іканапісцаў. Яны пазнаёміліся ў Сібіры, там узялі шлюб. Маім рэлігійным выхаваньнем займаўся дзед, мамін бацька. Ён выхоўваў мяне ў рыма-каталіцкай традыцыі, вучыў маліцца Ружанец на лацінскай мове, станавіцца на калені, складаць ручкі. На цьвічку ў доме дзядулі вісеў ружанец, на драўляным крыжыку якога была прыклееная металічная фігурка ўкрыжаванага Ісуса. Аднойчы, калі мне было гады чатыры, я заўважыў, што фігурка адклеілася і дзесьці загубілася, і калі мы пачалі чарговы раз маліцца, я сказаў: «Дзядуля, Бога няма!» Я меў на ўвазе, што зьнікла фігурка Ісуса. Дзядуля страшна раззлаваўся. Ён сварыўся на мяне і на маму, пытаўся, з кім яна мяне адпусьціла гуляць і дзе я пачуў, што няма Бога. Гэта былі савецкія часы, таму дзядуля вельмі напалохаўся. Урэшце я патлумачыў, што меў на ўвазе. Дзядуля нават узрадаваўся і сказаў, што Ісус жыве ў маім сэрцы. Для мяне гэта быў першы «крызіс веры», але адначасова і першае сутыкненьне з жывым Богам.

Наступная мая сустрэча з Богам адбылася ў школьныя часы. Мы з маімі сябрамі не былі вельмі веруючымі, але, каб «насаліць» настаўнікам, хадзілі ў праваслаўную царкву. Ідучы ў школу, каб пазлаваць настаўнікаў, штосьці выраблялі – альбо крыжык сабе надзенем, альбо прынясем маленькую сьвечку ў школу. Настаўнікі на нас сварыліся, а нам здавалася, што мы церпім за веру… Калі маму выклікалі ў школу, яна мяне бараніла, казала: «Ня вашая справа займацца выхаваньнем майго сына, а вучыцца ён добра».

Калі мне было 14 гадоў, я выехаў з дому і ўсякае рэлігійнае жыцьцё ў мяне спынілася. У 20 гадоў, ужо як студэнт архітэктурнага інстытуту ў Сьвярдлоўску, я пазнаёміўся з групай маладых хрысьціянаў розных канфесіяў, якія прывозілі з-за мяжы Бібліі (яны былі забароненыя ў СССР) і развозілі іх па ўсім Савецкім Саюзе. Мяне запрасілі дапамагаць ім у якасьці кіроўцы. Хрысьціянства для мяне тады было спосабам барацьбы з камунізмам, і мне таксама захацелася стаць хрысьціянінам. Потым, калі Бог паклікаў мяне, Ён вызваляў мяне, ачышчаў маё бачаньне хрысьціянства, паказваў мне, што мэта хрысьціянства – гэта не сацыяльная ці палітычная барацьба з зямным злом, а збаўленьне чалавека, асобы. Досьвед знаёмства з сапраўднымі вернікамі, жыцьцёвыя сітуацыі, у якія я тады трапляў, і нават сапраўдныя цуды, якія дзеіліся вакол мяне і са мною, але ў якія я ўпарта не хацеў верыць, пакінулі незабыўны сьлед і да сёньня.

Я быў мастаком, і момант пакаяньня ў маім жыцьці быў зьвязаны з тым, што я перастаў пісаць карціны, рабіць выставы, і пачаў пісаць іконы. Гэтак я адышоў ад папярэдняга свайго мастацтва, якое не было духоўным, і нават наадварот… Акрамя таго, я сабраў групу маладых людзей, і мы займаліся рэстаўрацыяй праваслаўных храмаў, пісаньнем ікон для іканастасаў. Гэта трэба было рабіць хутка, бо тады цяжка было дабіцца дазволу дзяржаўных уладаў, а сьвятары пасьля рэстаўрацыі рабілі выгляд, што так усё і было. Дзякуючы гэтай працы я пазнаёміўся з выдатнай асобай – праваслаўным архіяпіскапам Міхаілам Мудзьюгіным. І гэтае знаёмства перавярнула маё жыцьцё. Архіяпіскап Міхаіл адкрываў мне Евангельле, паказваў, што хрысьціянства – гэта ня толькі спосаб барацьбы тут, на зямлі, а містычная сустрэча з Богам, гэта радасьць, шчасьце, гэта жывы Бог, з Якім можна размаўляць, гэта Асоба, што мяняе жыцьцё чалавека.



**– І тады Вы ўпершыню задумаліся пра сьвятарства?**

– Не-не! Пра сьвятарства я яшчэ не задумваўся. Калі япіскап прапанаваў мне вучыцца ў семінарыі, я супраціўляўся, казаў, што і так магу прачытаць кніжкі. Але ён настойваў на тым, што мне патрэбна атрымаць сістэматычную адукацыю. І я паступіў у Ленінградзкую духоўную семінарыю. У тыя гады, дарэчы, ня ўсе семінарысты ў нас вучыліся афіцыйна, частка вучылася без дакументальнага афармленьня. У Царквы былі складаныя адносіны з камуністычнымі ўладамі, тых, хто афіцыйна вучыўся, маглі нават вербаваць сьпецслужбы.

Мне было цікава вучыцца, асабліва цікавіўся абрадам, архітэктурай, літургікай. Што датычыць багаслоўя, то найбольшай крыніцай ведаў сталі для мяне размовы з япіскапам Міхаілам.

Праз некаторы час япіскап Міхаіл Мудзьюгін пачаў намаўляць мяне стаць дыяканам. Я супраціўляўся. Мне ня вельмі хацелася быць праваслаўным сьвятаром. Я, напэўна, быў занадта ганарлівым – мяне не задавальняў узровень праваслаўнага духавенства. Таксама я ведаў, што на сьвятароў камуністычныя ўлады аказваюць ціск, некаторых вярбуюць. Але асоба япіскапа Міхаіла тут была для мяне выключэньнем: я бачыў у ім нестандартнага праваслаўнага япіскапа, шчырая вера якога, пастырская мудрасьць, шырокія веды і сьмеласьць у хрысьціянскіх ініцыятывах, а асабліва, малітва і сёньня выклікаюць у мяне вялікую павагу. Ніводнага свайго сур’ёзнага рашэньня ён не прымаў без малітвы, пры чым малітвы не фармальнай – глыбокай. Тады ўва мне адбывалася барацьба. І была яшчэ адна прычына, па якой я не хацеў быць дыяканам,– я заікаўся. Але япіскап пераканаў мяне, сказаў, што для пісаньня ікон дыяканскія сьвячаньні не зашкодзяць, наадварот, Бог дасьць мне дадатковую ласку для гэтай працы. Калі падчас рукапакладаньня я гаварыў заамбонную літанію, то ні разу не заікнуўся! Увесь дзень пасьля сьвячаньняў я правёў у доме архіяпіскапа, а ўвечары ён зьвярнуў маю увагу: «Айцец Ігар, Вы заўважылі, што ні разу не заікнуліся? Бог зрабіў з Вамі цуд! Значыць, Ён Вас паклікаў, у гэтым ня можа быць сумніваў!» Я прыняў гэты цуд са зьдзіўленьнем і падзякай.

Падобна было і са сьвятарскімі сьвячаньнямі. Я пярэчыў япіскапу, што іканапісцаў вельмі мала, а сьвятароў шмат. Але япіскап сказаў, што памаліўся пра мяне, і Бог адкрыў яму, што я маю быць сьвятаром. І такім чынам пераканаў мяне. Хачу дадаць, што ў тыя гады ня ўсё можна было рабіць яўна. У дыяканы я быў рукапакладзены ў 1986 годзе, а ў сьвятары – у 1988-ым, хоць у паперах значыцца, што дыяканскія сьвячаньні я атрымаў у 1988-ым, амаль адначасова са сьвятарскімі. Справа ў тым, што тыя два гады як дыякан я амаль не служыў, а больш займаўся пісаньнем ікон.

**– А ці мелі Вы ў гэты час кантакты з Каталіцкай Царквой?**



Архіяпіскап Мудзьюгін сябраваў з грэка-каталіцкім біскупам Сафронам Дмытэркам. Мы ведалі ў тыя часы пра гэта вельмі мала. Але некаторыя асабліва блізкія да архіяпіскапа сьвятары, сярод якіх быў і я, зьбіралі грошы для грэка-католікаў, баптыстаў, пяцідзясятнікаў, якія сядзелі ў турмах. Адзін са сьвятароў вазіў, перадаваў гэтыя грошы на Ўкраіну грэка-католікам. Дэталяў, на жаль, ня ведаю.

Пазьней, на Валагодчыне, дзе я служыў сьвятаром, мне сустракаліся мясцовасьці, дзе былі сасланыя католікі, і я запрашаў да іх каталіцкіх сьвятароў з Пецярбургу, каб маглі нагадаць ім пра іх каталіцкія карані. Але ў тыя часы каталіцкіх сьвятароў было мала і яны ставіліся вельмі насьцярожана да такога супрацоўніцтва.

Быў яшчэ адзін досьвед кантакту з каталікамі – да нас у япархію прыехаў малады чалавек, які скончыў каталіцкую семінарыю ў Польшчы, потым закахаўся і ажаніўся, але вельмі хацеў стаць сьвятаром. Ён быў згодны служыць праваслаўным вернікам, і сябры параілі зьвярнуцца да архіяпіскапа Міхаіла Мудзьюгіна. Гэты малады чалавек шмат распавядаў мне пра каталіцтва. І ў каталіцтве я ўбачыў поўню веры. Я знайшоў, што ў каталіцтве праяўляецца свабода, паўната, і ёсьць усё тое, чаго няма ў іншых канфесіях.

**– Як Вы трапілі ў Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву?**

– Пасьля таго як архіяпіскапа Мудзьюгіна патрыярх Маскоўскі адправіў на пенсію, пачаліся ганеньні на тых, хто супрацоўнічаў з ім. Шчыра кажучы, я думаю, што тая «пенсія» архіяпіскапа таксама была невыпадковая. Ён быў чалавекам вельмі шырокіх поглядаў, кантактаваў з католікамі, з іншымі канфесіямі. Пад канец свайго служэньня адкрыта ўзгадваў на сьв. Літургіі Папу. Разам з ім звольнілі з прыходаў усіх сьвятароў, якія былі да яго блізкія, бо мы таксама ня ўпісваліся ў стандарт праваслаўнай Царквы (напрыклад, мы служылі набажэнствы па-расейску, а не па-царкоўнаславянску, шмат літургічных тэкстаў пераклалі на расейскую мову), а асабліва ня ўпісваліся ў мысьленьне новага япіскапа.

Я зьбіраўся зьехаць на радзіму маіх продкаў па маці, у Аўстрыю. Але спачатку хацеў дапамагчы ўладкаваць жыцьцё маладога сьвятара, які хацеў вярнуцца на радзіму ў Беларусь. Дапамагчы, на жаль, не ўдалося, але ўласна тады, увосень 1994 году, я пазнаёміўся з айцом Янам Матусевічам, айцом Казімірам Ляховічам – беларускімі грэка-каталіцкімі сьвятарамі ў Менску. Я яшчэ некалькі разоў прыязджаў у Беларусь, а 1 сакавіка 1995 году пазнаёміўся з айцом Сяргеем Гаекам, Апостальскім візітатарам для беларускіх грэка-католікаў. Мне вельмі спадабаліся гэтыя людзі, і я адчуў, што Бог кліча мяне як сьвятара, і нават трошкі як барацьбіта, паслужыць гэтай адроджанай Царкве. Мы размаўлялі з айцом Сяргеем, і ён запытаўся, дзе б я хацеў служыць. Я адказаў, што там, дзе найцяжэй. Ён сказаў, што найцяжэйшым месцам зьяўляецца, бадай што, Берасьце, і я згадзіўся на працу ў гэтым горадзе.

Я трапіў да біскупа УГКЦ Сафрона Дмытэркі, і ён прыняў мяне з радасьцю, па-бацькоўску. Узгадваў пра тыя гады падпольля, пра якія я амаль нічога ня ведаў. Нават патэлефанаваў архіяпіскапу Міхаілу Мудзьюгіну, які рэкамендаваў прыняць мяне ў Каталіцкую Царкву. Узгадваючы размову з айцом Сяргеем Гаекам, я папрасіў, каб біскуп Сафрон прызначыў мяне місіянерам у Берасьце і Берасьцейскую вобласьць. Беларуская Царква гэтае прызначэньне прыняла, айцец дэкан Ян Матусевіч яго пацьвердзіў, і вось ужо 14 гадоў я служу ў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве.

**– Вы спрычыніліся да ўзьвядзеньня далёка не аднаго храму для малітвы. Ці ёсьць храмы, прыгажосьць якіх Вас вельмі ўражвае, дзе Вам хочацца быць і маліцца? Якімі, на Вашу думку, павінны быць сьвятыні ў сучаснай БГКЦ?**

– Мой адказ вельмі просты: як выглядае сьвятыня зьнешне для мяне, нягледзячы на тое, што я быў архітэктарам і мастаком, ня мае ніякага значэньня. Храм мусіць быць цёплы, утульны і зручны. Мусіць быць таксама густоўны, а які стыль – готыка ці барока, ракако ці які іншы – гэта ня важна. Я лічу, што сёньня больш патрэбны душпастырскія цэнтры, у якіх маглі б дзейнічаць адносна невялікія супольнасьці, храмы, дзе маглі б маліцца 80-100 чалавек. Калі ж у парафіі будзе больш людзей, то трэба рабіць больш службаў, ствараць некалькі меншых групаў, з якімі сьвятару прасьцей працаваць. Усё гэта для таго, каб парафія была жывая, каб была супольнасьцю супольнасьцяў. У маім уяўленьні ў БГКЦ такія малыя супольнасьці павінны дзейнічаць у невялікіх, але зручных, шматфункцыянальных будынках, якія можна было б хутка і танна будаваць ды ўтрымліваць. Трэба імкнуцца, каб людзі ня блыталі месца, дзе знаходзіцца царква-храм, і месца, дзе ёсьць Царква як містычнае Цела Хрыстова. А менавіта вернікі ёсьць гэтае містычнае Цела Хрыстова і таму супольнасьць мусіць быць цэнтрам жыцьця Царквы, а ня храм.

У наш час добра, каб невялікія супольнасьці вернікаў зьбіраліся ў розных раёнах гораду – там, дзе яны жывуць. Варта было б ствараць у парафіі невялікія, па 8-10 чалавек групы, якія маглі б сустракацца сярод тыдня па дамах, каб маліцца, чытаць Біблію, разважаць, задаваць пытаньні і разам шукаць адказы. Для мяне сёньня царкоўнае жыцьцё больш зьвязваецца з адносінамі паміж Богам і людзьмі, а не з абрадамі. Мне хочацца, каб нашыя набажэнствы былі зразумелыя і даступныя ўсім людзям, каб яны прыходзілі ў храм не на канцэрт прыгожага харавога сьпеву, а для шчырай супольнай малітвы. Больш зразумелай і вымоўнай мусіць быць мова набажэнства, знакі, сымболіка, а ўсе абрады і малітоўныя дзеяньні – натуральнымі, ня змушанымі ды поўнымі сэнсу, а не аўтаматызму. У такой сьвятыні я хачу быць і маліцца.

**– Чаго, на Ваш погляд, не хапае нашай БГКЦ для больш дынамічнага разьвіцьця? Ці ёсьць для яе наогул шанец сёньня, калі грамадзтва становіцца ўсё больш секулярызаваным і далёкім ад Бога?**

**– Я лічу: чым цяжэйшыя часы, тым больш шанцаў на духоўнае адраджэньне. Сёньня многія часта зьвяртаюцца да прыкладу хрысьціянскай Царквы першых трох стагоддзяў. Тады Царква перажывала моцныя ганеньні, але разьвівалася, квітнела, найперш сваёю верою. А розныя праблемы і цяжкасьці – секулярызацыя, вайна, ганеньні, крызісы – усё адбываецца з Божага допуску. Мы мусім менш зьвяртаць увагу на зьнешнія ўмовы і дапамагаць асягнуць збаўленьне канкрэтным людзям. Я веру, што мэта Бога – гэта збаўленьне канкрэтнага чалавека, а ня зьмена сацыяльнага ладу ці глабальных умоваў існаваньня. Я веру, што збаўленьне ёсьць ува мне, а ня ў зьмене зьнешніх ўмоваў майго збаўленьня. У сёньняшнім грамадзтве нам трэба быць духова моцнай Царквой, у якой на першым месцы будзе малітва і адносіны з Богам.**

**– Біблія займае пачэснае месца ў духоўным жыцьці кожнага сьвятара. Аднак Вы ў апошні час у сваёй сьвятарскай і душпастырскай дзейнасьці пачалі рабіць асабліва моцны акцэнт на Бібліі, нават распрацавалі і выдалі адмысловы план для яе штодзённага чытаньня, праводзіце розныя біблійныя сустрэчы, актыўна супрацоўнічаеце з Біблійным таварыствам, адных толькі беларускіх Бібліяў Вы распаўсюдзілі больш за дзьве сотні. Чым выклікана такая ўвага да Бібліі, якія мэты і задачы Вы ставіце?**

**– Калі ў 21 год, займаючыся распаўсюджваньнем Бібліі, я перажыў сваё навяртаньне, тады ўпершыню прачытаў Біблію. Зрабіў гэта вельмі хутка, за два тыдні. Мэта мая была стаць ня менш адукаваным, чым мае калегі з антысавецкай групы – «неадукаваныя» пратэстанты. Калі прачытаў Біблію першы раз – мне было ўсё зразумела. Калі прачытаў другі раз – зьявіліся пытаньні. Калі прачытаў трэці раз – пытаньняў стала яшчэ больш... З таго часу я маю правіла – чытаць і вывучаць Біблію кожны дзень, бо ад самага пачатку паверыў, што гэта ёсьць Слова Божае. Калі мы ня чуем голас Бога ў штодзённай асабістай малітве, то можам, прынамсі, чытаць Біблію – надрукаванае на паперы скіраванае да нас Слова Божае. Калі ўзяць план на ўвесь год і чытаць Біблію па 15 хвілінаў у дзень, то можна за год прачытваць усю Біблію. Пройдзе нейкі час і Госпад дасьць такую ласку, каб чалавек паміж радкамі Бібліі чуў жывы голас Бога. Кожны вернік мусіць слухаць Слова свайго Госпада, каб жыць ім.**

**У кнізе прарока Асіі Бог усклікае: народ мой гіне ад няведаньня (пар. Ас 4, 1-19). Я з жалем назіраю, што многія людзі гінуць ад няведаньня Слова Божага, не жадаюць пазнаць Бога праз такі даступны спосаб – Сьвятое Пісаньне. Для мяне дэвізам адносінаў да Слова Божага зьяўляюцца словы з кнігі Ісуса Навіна: «Хай не адыходзіць гэтая кніга закону ад вуснаў тваіх» (Іс Нав 1, 8). Я б вельмі хацеў, каб усе людзі, і ў першую чаргу сьвятары, чыталі Слова Божае. Адзін мой сябра-сьвятар, калі я прапаноўваў яму зрабіць рэкалекцыі, каб натхніць людзей на чытаньне Бібліі, адкрыта сказаў: «Не хачу, бо калі людзі пачнуць чытаць, у іх зьявяцца пытаньні, і мне Біблію чытаць прыдзецца...» Я лічу, што гэта вельмі добра, калі сьвятары пачнуць чытаць Біблію і Слова Божае стане для іх галоўным аўтарытэтам.**

**– Якая Ваша любімая форма малітвы?**

**– Індывідуальная, асабістая малітва, калі я прачынаюся рана і свабодна размаўляю з Богам. А пасьля адкрываю Біблію, чытаю Яго Слова, і Бог прамаўляе да мяне.**

**– А які сьпеў ці рэлігійная песьня для Вас улюбёныя?**

**– Я люблю габрэйскія песьні. Маё дзяцінства праходзіла сярод габрэяў, сасланых у Сібір, я бачыў, як яны маліліся, і іх малітва ўлілася ў маю падсьвядомасьць. Люблю іх жывыя, рэлігійна-**

**танцавальныя сьпевы. Мой любімы сьпеў-малітва «Кадош»: «Сьвяты, сьвяты, сьвяты Госпад Бог Сабаот...» Гэта сьпеў Анёлаў, якія вакол пасаду Божага сьпявалі і славілі Яго, гледзячы адзін на аднаго. Яны бачылі адзін у адным адлюстраваньне Бога і сьпявалі: «Кадош, Кадош...»**

**– У Берасьці Вы сталі ініцыятарам правядзеньня штомесячных экуменічных сустрэчаў. Чаму Вы ўзяліся за гэтую нялёгкую справу прымірэньня хрысьціянаў і, як Вы лічыце, якія пэрсьпектывы ў экуменічнага руху сёньня?**

**– Я пакаяўся сярод пратэстантаў (калі ў маладосьці тайна распаўсюджваў Бібліі), вырастаў у асяроддзі праваслаўных, з дзяцінства адчуваў сябе каталікам. Для мяне містычнае Цела Ісуса Хрыста не абмяжоўваецца зямнымі рамкамі адной з канфесіяў. Мая мара – каб людзі таксама ўбачылі гэтае містычнае Цела, каб іх адносіны з Богам і паміж сабой сталіся больш блізкімі, чым адносіны канфесійныя. Я перакананы, калі я па-сапраўднаму зьяднаны з Ісусам, і іншы чалавек зьяднаны з Ім – гэта і ёсьць гарантыя таго, што мы адзіныя.**

**Нашыя сустрэчы мы праводзім з мараю, каб людзі перасталі бачыць межы паміж хрысьціянамі. Аднак, калі мы сустракаемся, мы не адмаўляемся ад свайго – ад таго, што нас разьядноўвае, мы спрабуем зразумець і прыняць тое каштоўнае, што маюць іншыя, і ня маем мы. Мае сябры пратэстанты спрабуюць вывучаць нашую літургію, спрабуюць зразумець апостальскую пераемнасьць, нашыя адносіны са сьвятымі і Багародзіцай. А мы ў сваю чаргу вучымся ад іх чытаць і вывучаць Біблію, служыць у дарах Сьвятога Духа.**

**– Духоўная спадчына і думкі каго з сьвятых або сучасных царкоўных лідараў выклікаюць у Вас сёньня найбольшую цікавасьць і натхненьне?**

**Мой любімы Духоўны Аўтар – Госпад Бог, а кніга – Біблія. У Бібліі мая любімая кніга – Адкрыцьцё Яна Багаслова, пасьля – Пасланьне апостала Паўла да Рымлянаў, і яшчэ адна кніга, якая не ўвайшла ў Сьвяты Канон – 3-ая кніга Ездры. З па-за біблійных аўтараў падабаецца Толкіен, ёсьць цікавыя думкі ў сучасных пратэстанцкіх аўтараў.**

**– Ці любіце Вы глядзець фільмы? Ці ёсьць тыя, якія запомніліся надоўга?**

**З фільмамі бывае так – сёньня падабаецца адзін, а праз месяц – іншы. Апошні фільм, які спадабаўся, і я нават некалькі разоў праглядзеў яго – «Зялёная міля». З задавальненьнем гляджу «Ўладара пярсьцёнкаў», «Гары Потэра», нягледзячы на супярэчлівыя водгукі на гэтую кнігу і фільм (часта тых, хто не чытаў, але асуджае). Усе гэтыя фільмы выклікаюць духоўныя перажываньні. Хоць там няма ні слова пра Бога, усе яны глыбока духоўныя. Уласна такія фільмы я люблю глядзець.**

**– Ваш дзень народзінаў напярэдадні 8 сакавіка. А як Вы ставіцеся да гэтага сьвята? Ці варта яго адзначаць хрысьціянам?**

**– У гэтым годзе мы ўсёй парафіяй сьвяткуем 8 сакавіка. Мужчыны з нашай парафіі рыхтуюць сьвяточны абед, невялікія падарункі, віншаваньні жанчынам і дзяўчатам. Мы будзем служыць Літургію падзякі за дар любові і жыцьця. Хочам блаславіць гэтае сьвята, якое мела ў сваіх пачатках бязбожную ідэю – так, як гэта зрабіла некалі Царква з язычніцкімі сьвятамі, напоўніўшы іх новым зьместам. Хочам напоўніць гэтае сьвята Божым блаславеньнем, падзякаваць Богу за нашых жанчынаў, за жыцьцё, бо жанчына – Ева – азначае жыцьцё. І хочам нагадаць, што любоў – гэта цудоўны дар Бога.**

**– Як Вы любіце адпачываць?**

**– Адпачываць люблю, седзячы ў фатэлі, з Бібліяй у руках. Біблію адкрыць, вочы заплюшчыць, і прыснуць трохі, каб прысьнілася нешта незвычайнае.**

**– Што б Вы хацелі пажадаць чытачам газеты «Царква»?**

**– Хачу пажадаць нашым чытачам шукаць Божую свабоду, знаходзіць яе, каб яна была для нас умяшчальняй Божай любові. І хачу пажадаць кожнаму чытачу: «Хай блаславіць цябе Госпад і захавае цябе! Хай паглядзіць на цябе Госпад сьветлым тварам Сваім і зьмілуецца над табою! Хай**

**паверне Госпад твар Свой да цябе і дасьць табе супакой!» (Лікі 6, 24-26).**



**– Дзякуем за размову і шчыра віншуем Вас з 50-гадовым юбілеем і зычым Божага блаславеньня і натхненьня ў Вашым жыцьці і сьвятарскім служэньні «на многія леты»!**

**Гутарылі а. Андрэй КРОТ і Ігар БАРАНОЎСКІ**

**Павіншаваць а. Ігара Кандрацьева з 50-гадовым юбілеем у нядзелю, 08.03.2009, прыехалі ў Берасьце на Боскую Літургію шматлікія вернікі з розных парафіяў (з Баранавічаў, Івацэвічаў, Пінску, Астраўца), а таксама Апостальскі Візітатар БГКЦ архімандрыт Сяргей (Гаек) і кс. Эдуард Мігай з Пінску.**

Парафіяльнае жыцьцё

# Пілігрымка да адроджанай Царквы

**Протаігумен Львоўскай правінцыі Чыну Найсьвятога Адкупіцеля а. Васіль Іваніў 22-26 студзеня 2009 году наведаў парафіі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Візіт адбыўся на запрашэньне Апостальскага Візітатара для грэка-каталікоў Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека і быў прымеркаваны да ўшанаваньня памяці сьвятых Падляшскіх мучанікаў. У гэтай пілігрымцы айца-протаігумена суправаджалі браты Алег Чыхарыўскі, Ігар Паўлій, а таксама Антон Нікалаеў і Зьміцер Чарнель, якія родам з Беларусі.**



Першым пунктам пілігрымкі была парафія сьв. апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці. Тут гасьцей сустракалі Апостальскі Візітатар БГКЦ архімандрыт Сяргей Гаек, парах а. Ігар Кандрацьеў, вернікі і сябры харызматычнай супольнасьці «Маран ата». Увечары ў чацьвер, 22 студзеня, у царкве была адслужана сьв. Літургія ў памяць Пратулінскіх мучанікаў, а таксама засьпявалі Акафіст Падляшскім мучанікам. Пасьля Літургіі адбылася сустрэча протаігумена з парафіянамі, на якой а. Васіль коратка распавёў прысутным пра гісторыю Кангрэгацыі Найсьвятога Адкупіцеля, пра яе дзейнасьць ва Ўкраіне і адказаў на пытаньні.

23 студзеня рэдэмптарысты наведалі ранейшы базыльянскі манастыр у Жыровічах, які цяпер належыць праваслаўным, дзе памаліліся ля Жыровіцкай іконы Багародзіцы. Таксама наведалі Альбярцін у Слоніме, дзе ў міжваенны час знаходзілася Ўсходняя місія айцоў езуітаў, і дзе часта бываў манах-рэдэмптарыст бл. Мікалай Чарнецкі – Апостальскі Візітатар для католікаў славяна-візантыйскага абраду на Валыні, Падляшшы і Палесьсі. У гэты ж дзень адбылася сустрэча Апостальскага Візітатара БГКЦ архімандрыта Сяргея Гаека і Протаігумена Львоўскай правінцыі а. Васіля Іваніва з біскупам Гарадзенскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі Аляксандрам Кашкевічам, на якой прысутнічалі і іншыя браты-рэдэмптарысты, а таксама адміністратар гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай а. Андрэй Крот. Паколькі грэка-каталіцкая капліца ў Горадні вельмі малая, то Боскую Літургію, якой ушаноўвалі памяць Пратулінскіх мучанікаў, адслужылі ўвечары ў капліцы рэдэмптарыстаў Варшаўскай правінцыі, пасьля чаго ў памяшканьні кляштару рэдэмптарыстаў адбылася сустрэча парафіянаў з протаігуменам.

24 студзеня протаігумен прыехаў у Менск, дзе ў парафіі сьв. Язэпа праходзіў дзень духоўнай адновы для панамароў Алтарнага брацтва Пратулінскіх мучанікаў. У сьвятой Літургіі прынялі ўдзел таксама архімандрыт Сяргей Гаек, протапрасвітар Цэнтральна-Заходняга дэканату імя бл. Мікалая Чарнецкага і парах парафіі сьв. Язэпа а. Андрэй Абламейка, а. Пахом Кавалёў ды а. Пётр Мартэн. Пасьля набажэнства айцец протаігумен распавёў пра манахаў-рэдэмптарыстаў і адказаў на пытаньні прысутных.



У нядзелю, 25 студзеня, зьверхніка ўкраінскіх рэдэмптарыстаў сустракала парафія сьв. Язафата ў Полацку, у якой служыць а. Аляксандр Шаўцоў. У гэты дзень прыпала сьвята Рыгора Багаслова. Украінскія браты засьпявалі ютрань украінскай мовай, пасьля якой а. Васіль Іваніў, CSsR узначаліў Сьвятую Літургію, якая таксама была па-ўкраінску з асобнымі часткамі па-беларуску. Пасьля службы, як звычайна, протаігумен распавёў пра служэньне манахаў ва Ўкраіне і адказаў на пытаньні. Перад вяртаньнем у Менск госьці з Украіны наведалі полацкі Сафійскі сабор і пакланіліся мошчам вялебнай Еўфрасіньні Полацкай, асьветніцы Беларусі ў Сьвята-Еўфрасіньнеўскім праваслаўным манастыры, акрамя таго наведалі з калядою дзьве ўкраінскія сям'і, якія жывуць у Полацку.

Пілігрымка протаігумена рэдэмптарыстаў закончылася ў Менску 26 студзеня наведваньнем парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі. На працягу пілігрымкі ўкраінскі протаігумен і беларускі архімандрыт абмяркоўвалі таксама пытаньні пра перспектывы адкрыцьця манастыра рэдэмптарыстаў Львоўскай правінцыі ў Беларусі. Напрыканцы сустрэчы і ўсяго візіту архімандрыт Сяргей Гаек ад імя Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы падзякаваў айцу-протаігумену за яго візіт і ўвагу, адзначыўшы вялікую важнасьць гэтай падзеі для Беларусі, а а. Васіль Іваніў, CSsR падзякаваў архімандрыту за яго служэньне ў Беларусі.

Наступная паездка протаігумена рэдэмптарыстаў у Беларусь запланаваная на лета 2009 году.

**Зьміцер Чарнель**, CSsR, http://cssr.livejournal.com

**На фота:**
*1. Протаігумен рэдэмптарыстаў а. Васіль Іваніў у Берасьці.*
*2. Берасьце, 22.01.2009. Літургія ў памяць Падляшскіх мучанікаў-уніятаў.*

Парафіяльнае жыцьцё

Алтарны росьпіс у грэка-каталіцкай царкве ў Берасьці



Хрыстос на крыжы (2000 г.). Алтарны росьпіс у грэка-каталіцкай царкве сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці. Іканапісец – а. Ігар Кандрацьеў (пры ўдзеле Паўла Ляхновіча і Алены Грынкевіч).

Парафіяльнае жыцьцё

# «Любоў не шукае»

**Хрысьціянскі мюзікл з такой назвай змаглі паглядзець 27 сьнежня 2008 году вернікі і госьці грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці.**

Гэтую цікавую пастаноўку на расейскай мове, якая доўжылася амаль гадзіну, падрыхтавалі евангельскі пастар Аляксандр Вялічка (ён напісаў сцэнар мюзікла) і група моладзі з царквы «Дом Божы» ў Жодзіна.

У мюзікле паказаны пакутлівыя перажываньні і цяжкія пошукі сапраўднае Любові сучаснай моладдзю.

Выдатныя тэксты песень для мюзіклу напісалі Кацярына Белая і Валянцін Лугоўскі, а музыку для яго стварылі Віктар Колбун і Ягор Ровін. Да гэтага паказу ў Берасьці мюзікл змаглі пабачыць толькі евангельскія хрысьціяне ў Жодзіна і ў Кобрыні.

Гэтая імпрэза, што адбывалася ў грэка-каталіцкім душпастырскім цэнтры ў калядны час, была скіраваная на ўмацаваньне братэрскіх кантактаў паміж вернікамі розных канфесіяў, для якіх галоўнае ў жыцьці мусіць быць Бог, Які адзіны для ўсіх, і праўдзівая Любоў, якая не шукае свайго, а служыць іншым, каб разам маглі несьці сьвету нашае хрысьціянскае сьведчаньне.

Напрыканцы імпрэзы, якая сама была своеасаблівым калядным падарункам, браты пяцідзясятнікі падарылі берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі па-мастацку вышытую карціну з выявай Багародзіцы і Дзіцятка Ісуса, зробленую рукамі адной з верніц.

Парафіяльнае жыцьцё

# 25-гадовы юбілей сьвятарскага служэньня а. Казіміра Ляховіча

**Сёлета айцец Казімір Ляховіч – шматгадовы парах грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Менску, адзначае 25-годдзе пачатку свайго сьвятарскага служэньня. 27 лютага 1984 году ардынарый Кайшадорскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі (Летува) біскуп Вінцэнт Сладкявічус высьвяціў Казіміра Ляховіча на дыякана.**



Будучы душпастыр парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі нарадзіўся 15 лістапада 1962 году ў в. Новадубовая, якая належала да Адэльскай рымска-каталіцкай парафіі, што пад Горадняй (з яе паходзіць таксама і Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч). Пасьля заканчэньня ў 1979 годзе сярэдняй школы ў мястэчку Індура ён па рэкамендацыі і пад апекай свайго пробашча кс. Фелікса Сарокі быў накіраваны на вучобу ў падпольную семінарыю, якую арганізавалі каталіцкія сьвятары Вацлаў Пянткоўскі і Міхал Арановіч.


Паколькі сваё духоўнае пасьвячэньне Казімір Ляховіч атрымаў таемна ад тагачасных бязбожных уладаў, якія чынілі ўсялякія перашкоды для разьвіцьця Каталіцкай Царквы, сваё служэньне ён мусіў выконваць падпольна. У такім нелегальным стане ён выконваў дыяканскае служэньне ў шматлікіх каталіцкіх парафіях у Летуве ў мясцовасьцях Швенганаляй, Эйшышкі, Дзевянішкі, Нарвелішкі. Разам з тым, каб не патрапіць пад перасьлед камуністычных уладаў і мець хоць нейкія сродкі для існаваньня, дыякан Казімір Ляховіч афіцыйна працаваў паштаром, вартаўнікам, прыбіральшчыкам храму і інш.

У 1985 годзе, атрымаўшы ўрэшце дазвол ад дзяржаўных уладаў, Казімір Ляховіч паступіў на трэці курс Рыжскай духоўнай рыма-каталіцкай семінарыі, якую пасьпяхова скончыў у 1988 годзе. Пасьля заканчэньня семінарыі ён працягваў сваё служэньне ў каталіцкіх парафіях у Расеі (г. Маркс, Саратаўскае вобл.) і Беларусі (Адэльск, Макараўцы, Наваградак, Дзераўная, Задарожжа).


У 1992 годзе дыякан Казімір Ляховіч атрымлівае дазвол на служэньне ва ўсходнім абрадзе і прымае прасьвітарскія сьвячаньні з рук украінскага грэка-каталіцкага біскупа з Івана-Франкоўску Ўладыкі Сафрона Дмытэркі. Адразу пасьля гэтага ён быў накіраваны для душпастырскай працы ў Менск і прызначаны парахам у толькі што ўтвораную беларускую грэка-каталіцкую парафію Іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Паколькі на той час у Беларусі было толькі тры сьвятары, якія працавалі сярод грэка-католікаў, сваё душпастырскае служэньне а. Казіміру Ляховічу давялося выконваць па ўсёй краіне (Ліда, Магілёў, Гомель, Полацак, Старыя Дарогі, Мар’іна Горка і інш.). У Лідзе намаганьнямі айца Казіміра быў пабудаваны душпастырскі цэнтр. У 1994 годзе айцец дэкан Ян Матусевіч і айцец Казімір Ляховіч дабіліся дазволу на будаўніцтва ў Менску першай (з часоў скасаваньня Уніі) грэка-каталіцкай царквы, будаўніцтва якой, па незалежных ад іх прычынах, так і не распачалося. Шмат намаганьняў ён прыклаў для будаўніцтва душпастырскага цэнтру ў Менску ў завулку Сьнежным.

Айцец Казімір многія гады аддана служыць Богу і людзям, ладзіць пілігрымкі з сваімі парафіянамі ў розныя мясьціны Беларусі і за яе межы, арганізуе прагляд і абмеркаваньне фільмаў, прыкладае вялікія намаганьні, каб урачыста адзначаць сьвята патронкі парафіі – Маці Нястомнай Дапамогі і царкоўныя сьвяты.

**Андрэй Русін**
*г.Менск*

**На фота:**
*1. Айцец Казімір Ляховіч на пачатку свайго дыяканскага служэньня з кс. Феліксам Сарокам (1988 г.).*
*2. Дыякан Казімір Ляховіч з будучым біскупам Антонам Дзям’янкам і дзецьмі пасьля сьвята Першага*

*Прычасьця (1990 г.).*
*3. На асьвячэньні крыжа ў Менску, дзе павінна была быць збудавана грэка-каталіцкая царква (1994 г.).*

Парафіяльнае жыцьцё

# Дзякуем за служэньне!



25 гадоў служыць Богу і людзям а. Казімір Ляховіч. З 1992 году, ад самага пачатку існаваньня парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Менску, ён зьяўляецца яе нязьменным душпастырам. За гэты час парафія вырасла духоўна і колькасна. Асабліва прыемна тое, што ў парафію ўсё больш прыходзіць моладзі. Сёньня нашая парафія зьяўляецца самай вялікай па колькасьці вернікаў у БГКЦ, і ў гэтым ёсьць вялікая заслуга айца Казіміра.

Для многіх вернікаў прыцягальным прыкладам ёсьць яго любоў да Бога, глыбокая вера і шчырая малітва, а яго душпастырская руплівасьць спрыяе ачышчэньню і асьвячэньню іх душаў.

Сыноўняя любоў айца Казіміра да роднай Бацькаўшчыны перадаецца людзям, умацоўвае іх упэўненасьць у сіле веры і дае надзею на лепшую будучыню.

Моцнага Вам здароўя, айцец Казімір, нязломнай веры і стойкасьці духу!

З любоўю

**Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ**
*г.Менск*

**На фота:** *Айцец Казімір Ляховіч у капліцы Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане.*

Царква і грамадзтва

# У імя Хрыста, у імя Беларусі!

**У адзін з цудоўных дзён сьвята Божага нараджэньня ў менскім Чырвоным касьцёле імя сьвятых Алены і Сымона адбылася прэзентацыя новага выпуску серыі дыскаў «Беларускі хрысьціянскі хіт-2». У перапоўненай дольнай залі касьцёлу айчынныя выканаўцы хрысьціянскіх сьпеваў прапанавалі свае музычныя творы на роднай мове, якія былі прысьвечаныя ўслаўленьню Бога і Нараджэньня Хрыстовага.**




Пра праблемы і творчыя здабыткі хрысьціянскага напрамку ў сучаснай беларускай папулярнай музыцы я распавядаў, калі прадстаўляў першы дыск названай серыі («Беларус» №545, чэрвень 2008 г.). І вось працяг творчай ініцыятывы, якую распачалі маладыя палітыкі, што спрычыніліся да стварэньня партыі БХД (Беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў). Цяпер дэвізам новага дыску стала цытата, узятая з біблійных псальмаў (Пс 103:33), «Буду сьпяваць Госпаду ўсё жыцьцё маё, буду сьпяваць Богу майму, пакуль я ёсьць». На маю думку, сьцьвярджальны сэнс гэтых біблійных словаў адлюстроўвае той факт, што айчынныя выканаўцы хрысьціянскіх сьпеваў перайшлі да аптымістычнага погляду на будучае хрысьціянскага напрамку ў беларускамоўнай музычнай культуры.

Каб упэўніцца ў такой тэндэнцыі, трэба было ня толькі ўчытацца ў сьвятыя словы, што цытуюцца складальнікамі дыска «Беларускі хрысьціянскі хіт-2», але і паназіраць за выканаўцамі, а таксама, за слухачамі, якія прыйшлі ў гэты сьвяточны дзень на прэзентацыю дыска.

Распачаць музычную імпрэзу было даручана вядомаму беларускаму барду, песьні якога гучаць на абодвух выпусках «Беларускага хрысьціянскага хіта»,– Андрэю Мельнікаву. Асаблівыя пачуцьці слухачоў, іх гарачыя апладысьменты выклікаў «Гімн» на словы праваслаўнага паэта А. Бембеля (Зьніча). На канцэрце прагучала і песьня-візітоўка А.Мельнікава «Гэта мы!» з першага выпуску зборніка. Гэтыя творы – быццам камертоны беларускай душы, у якой любоў да Хрыста падмацоўваецца любоўю да роднай Беларусі. У гэтым спалучэньні бачацца вытокі беларускай духовасьці і моцы веры нашага народу.

Цікавымі падаліся сьпевы маладых хрысьціянскіх выканаўцаў, якія пакуль не прадстаўленыя на дысках серыі «Беларускі хрысьціянскі хіт», але маюць усе шанцы прадстаўляць сваю творчасьць на наступных кружэлках і канцэртах праекту. Маю на ўвазе дуэт сясьцёр Ганны і Ядзьвігі Багдановіч, якія прадставілі шэраг кампазіцыяў у традыцыйнай – шчырай і сьпеўнай – манеры выкананьня. І гэта ня дзіўна, бо дзяўчаты працуюць пры касьцёле сьвятых Алены і Сымона. Іх песьні «Ля Бэтлея поле сьпіць...», «Зорка Любоў» і іншыя творы прымаліся слухачамі вельмі шчыра, агульнымі сьпевамі мелодыі і словаў тых песень.

Інэса Леаданская таксама прадстаўляла творчы патэнцыял тых вернікаў, якія гуртуюцца вакол духовага цэнтру, што дзейнічае пры касьцёле сьв. Алены і Сымона. Інэса – арганістка і суправаджае сваім граньнем разнастайныя касьцёльныя службы. Але яна і сьпявачка, якая стварае песьні на словы класікаў і вядомых беларускіх паэтаў. На жаль, апошнім часам Інэса ня вельмі часта выходзіць на канцэртныя пляцоўкі са сваімі творамі, але слухачы з цікавасьцю праслухалі выступ сьпявачкі, успомнілі твор, з якім яна дэбютавала на першым выпуску «Беларускага хрысьціянскага хіта» – «Хрыстос уваскрос» на верш Янкі Купалы.

Своеасаблівы сюрпрыз слухачам падрыхтаваў малады хрысьціянскі выканаўца з Вялейкі Алесь Наркевіч, які выканаў песьні на свае вершы. Строй ягоных паэтычных вобразаў вызначаецца глыбокай філасафічнасьцю, арыгінальным поглядам на зьмест хрысьціянскай паэзіі і яе непарыўнай сувязьзю з патрыятычным пачуцьцём беларуса, які любіць Хрыста і родны край. Таму асаблівымі авацыямі слухачоў была адзначана ягоная песьня «Беларусь», у якой аўтар трапна намаляваў складаны эканамічны і цяжкі моўна-культурны стан краіны. Але аўтар сьцьвярджае, што «усё ж Беларусь – гэта нешта другое!» Гэта «нешта другое», на думку А.Наркевіча, палягае ў хрысьціянскіх ідэалах, якія былі і застаюцца галоўным складнікам сьветаадчуваньня нашага народу.

Завяршыў прэзентацыю складанкі «Беларускі хрысьціянскі хіт-2» ужо даволі вядомы і папулярны ў Беларусі

прафесійны гурт «Псальмяры». Нагадаю, у 2005-ым годзе гурт стаў уладальнікам гран-пры музычнага конкурсу імя Ўладзімера Мулявіна. «Псальмяры» таксама былі ўзнагароджаныя сьпецыяльным прызам фэсту «Магутны Божа» за захаваньне сьпеўных традыцыяў. На жаль, у гэты дзень увесь склад гурта ня змог прыехаць на прэзентацыю, і творчасьць «Псальмяроў» прадстаўлялі ягоныя ўдзельнікі – сужэнцы Зьміцер і Кацярына Пятроўскія. У іх выкананьні прагучалі хрысьціянскія сьпевы, якія сярод слухачоў сталі сапраўднымі хітамі – «Вечна жыві, мая Беларусь», «Зорка шчасьця», «На Беларусі Бог жыве» (на верш У.Караткевіча), «Я маю права на веру», якія ёсьць на дысках серыі.

Гэтыя творы прагучалі пад скляпеньнямі Чырвонага касьцёлу вельмі ўзьнёсла і арганічна з тэматыкай сьвята Божага Нараджэньня, што выклікала ў слухачоў і вернікаў шчырыя апладысмэнты і словы ўдзячнасьці ў адрас выканаўцаў.

На жаль, нават гэтая двухгадзінная прэзентацыя не змагла ў поўнай меры адлюстраваць усю палітру музычных фарбаў другога дыску серыі «Беларускі хрысьціянскі хіт». Па традыцыі новы дыск распачынаецца чарговай версіяй беларускай хрысьціянскай класікі – гімнам «Магутны Божа» М.Равенскага на верш Н.Арсеньневай. Цяпер твор гучыць у выкананьні камернага хору «Покліч» з Пінску. На дыску таксама прапанавана і традыцыйная хрысьціянская музыка ад гуртоў праслаўленьня розных хрысьціянскіх цэркваў. Маю на ўвазе гурт «Дабравесьце» (цікава, што іх кампазіцыя «Веру ў Бога» аранжаваная ў сярэднявечнай стылістыцы з выкарыстаньнем старажытнай дуды) ці «Сьвет ісьціны» з Салігорску.

Што да хрысьціянскіх сьпеваў ад выканаўцаў папулярнай хрысьціянскай музыкі – бардаў, рок– ці пап-гуртоў, то іх творчыя вартасьці і разьмяшчэньне на новым дыску вызначалася шляхам апытаньня сярод вернікаў. Таму бачыцца логіка ў тым, што ў трэк-ліст «Беларускага хрысьціянскага хіта-2» зноў трапілі кампазіцыі гуртоў «Tesaurus», «DVA», «Кадаш», памянёных «Псальмяроў» і шмат іншых выканаўцаў. Затое пытаньне ўзьнікла адносна такіх нетыповых для хрысьціянскай тэматыкі выканаўцаў, як гурт «Радуніца», музыкі якога працуюць на стыку пап-фольку і хрысьціянскіх сьпеваў. Пакуль іхныя стылістычныя эксьперыменты («Божы народ, танцуй!») ня вельмі кранаюць душу з-за таго, што мелодыі полькі ў гэтых музыкаў яшчэ ня вельмі стасуюцца з тэкстамі пра веру ў Збаўцу. Магчыма, музыкам «Радуніцы» яшчэ трэба папрацаваць над сутнасным напаўненьнем сваіх твораў, зрабіць больш пераканаўчы крок да шчырасьці ў сваёй творчасьці...

Але галоўны настрой дыску «Беларускі хрысьціянскі хіт-2» вызначаюць ня скокі пад гармонік ці «паэтычныя вынаходкі», кшталту «Бог даў сваё спасеньне і любоў... / Мы цяпер цалкам свабодны ад граха.../» Яго ствараюць цудоўныя мелодыі і галасы аўтарак і сьвачак Алесі Ўнукоўскай, Алесі Новік, Тацяны Молчан і Вальжыны Цярэшчанкі, якія яшчэ раз падкрэсьліваюць унівэрсалізм таленту беларускіх жанчын! І хоць кампазіцыі часта не вылучаюцца нейкімі кардынальнымі стылістычнымі адрозьненьнямі, асоба выканаўцаў, іх трапяткое сьветаадчуваньне робіць творы своеасаблівымі споведзямі жаночай душы. У гэтай сувязі вядомы беларускі музычны крытык Вітаўт Мартыненка заўважыў: «І хоць часам сустракаюцца аднолькавыя назвы твораў, слухач можа не турбавацца, бо калі, напрыклад, у Вальжыны Цярэшчанкі «Абба Ойча» зьяўляецца прыкладам кананічнай малітвы, дык у гурта «DVA» за гэтай назвай хаваюцца асабістыя асэнсаваньні суаўтаркі Алесі Ўнукоўскай». Так, асабістыя асэнсаваньні аўтараў песень, якія прапанаваныя ў новым выпуску серыі «Беларускі хрысьціянскі хіт»,– бадай, самы каштоўны набытак усяго сьпеўна-хрысьціянскага напрамку сучаснай беларускамоўнай папулярнай музыкі. І хоць, бывае, гэтыя набыткі нівелююцца няпэўнымі стылістычнымі эксьперыментамі і моўнай неахайнасьцю ў тэкстах, лепшыя кампазіцыі з новай складанкі даводзяць слухачам тое, што гэты музычны напрамак у Беларусі хутка прагрэсуе, а значыць, мае ўсе шанцы быць пачутым і запатрабаваным слухачамі.

Прэзентацыя дыску «Беларускі хрысьціянскі хіт-2», якая адбылася ў менскім Чырвоным касьцёле сьвятых Алены і Сымона, яшчэ раз давяла слухачам і ўсім тым, хто сочыць за разьвіцьцём хрысьцінскай музычнай культуры, што ў Беларусі зьяўляецца ўсё больш і больш таленавітых выканаўцаў, якія здольныя данесьці да слухачоў высокія словы адданасьці Богу і веры ў Збаўцу. Упэўнены, што такая тэндэнцыя да творчага росту будзе спрыяць зьяўленьню новых таленавітых выканаўцаў, а таксама цікавых кампазіцыяў, якія стануць праграмнымі для будучых выпускаў серыі «Беларускі хрысьціянскі хіт».

**Анатоль Мяльгуй**,<br>
*музычны аналітык*<br>
*Газета «Беларус». № 552. Студзень 2009 г. С. 12.*

Тыя, хто зацікавіўся дыскамі з серыі «Беларускі хрысьціянскі хіт», могуць зьвяртацца па маб. тэл. (+375-29) 656-00-64, 861-62-28.

**Г.Піхура (Гай дэ Пікарда)**

# Царкоўная музыка на Беларусі

(Пачатак у № 3 (58) 2008, № 4 (59) 2008.)

Частка другая

**ПАЛІФОНІЯ**



**1. Сярэднявечча і Рэнесанс (ад пачатку да 1620 г.)**

Пачаткі шматгалосавага царкоўнага сьпеву (паліфоніі) у Беларусі сягаюць, напэўна, да самых пачаткаў царкоўнай музыкі ў гэтым краі. Народ з багатай і раньняй спадчынай гарманізаванага народнага сьпеву наўрад ці мог паўстрымацца, каб ня ўвесьці сваё сьпеўнае мастацтва ў цэркві ў самым раньнім часе. Думка Смаленскага адносна раньняга ўвядзеньня паліфоніі ў цэркві робіцца асабліва праўдападобнай, калі заўважым, як блізкімі ёсьць «папеўкі», або ўзоры, старога знаменнага расьпеву да папевак, ужываных у тагачаснай народнай музыцы. Стыль першых гарманізацыяў быў без сумневу народны, уключаючы ў сабе цэлыя часткі аднагалоснага сьпеву, у актавах і пасьлядоўных чацьвёртых і пятых, з пераходам мелодыі ад аднаго голасу да другога. Напэўна, былі ў гэтым сьпеве і элементы прыгожага народнага дысанансу.[1]

«Арс нова» (новае мастацтва) сярэднявечча, прынесенае ў Беларусь студэнтамі і рэлігійнымі сьпевакамі (рыбалты), знайшло папулярнасьць на князёўскіх дварах і ў школах сьпеву і праз іх пачало рабіць уплыў на сьпеў у вялікіх цэрквах і саборах.[2] У XIV і XV стст. мы бачым разьвіцьцё сьпеву на два або тры галасы ў цэрквах у Кракаве і ў Вільні, а ў пачатку XVI ст., прынамсі ў Заходняй Беларусі, была ўжо моцна ўстаноўленая традыцыя гарманізацыі на чатыры галасы.[3] Распаўсюджаньне паліфоніі было аблегчана пераходам беларускай шляхты на лацінскае каталіцтва і яе цягаю да Заходняй культуры.

У Вільні школа літургічнага сьпеву існавала пры саборы сьв. Станіслава ўжо ад 1465 г. Трыдэнцкі сабор (1545-1563) распачаў перыяд рэформы лацінскага літургічнага сьпеву, і новы напрамак быў нададзены хору ў 1579 г. польскім сьпеваком Шымонам з Бжэзіна. Беларускія вернікі масава прыходзілі ў лацінскія цэркві, якія сталі ўжо тады моднымі, каб пачуць новае «штучнае сьпяваньне» (іскусное пеніе) такіх вядомых польскіх кампазітараў, як Вацлаў Шаматульскі (1529-1572) і Мікола Гамулка (1564-1609). Яны падзіўлялі новазбудаваныя арганы, на якіх майстры Себастыян з Менску (XVI ст.) і Мікола Мазовіч паказвалі свае мастацтва.[4] Езуіты ў сваіх новазаложаных калегіях у Вільні, Полацку, Горадні і Нясьвіжы зьвярталі вялікую ўвагу на музычнае ўзгадаваньне. Музыкі Ордэну Ёнаш Грушэўскі (пам. 1646 г.) і Якуб Пашкевіч (пам. 1657 г.) пісалі сьпецыяльныя гімны для вучняў. Паколькі спачатку вялікая колькасьць гэтых вучняў былі праваслаўнымі, дык ня дзіва, што заходняя лацінская музыка знайшла сабе хутка месца ў праваслаўных цэрквах.[5]

Князь Мікола Радзівіл, галава кальвіністаў, вельмі любіў музыку. Ягоныя аркестра і хор у Вільні зрабілі вялікае ўражаньне на ангельскага амбасадара (Сэр Джэром Горзей), калі апошні адведаў яго ў 1583 г.[6] Радзівіл быў апекуном Шаматульскага і прызначыў яго кіраўніком свайго хору ў Нясьвіжы.

Вялікую ролю ў збліжэньні заходняй і ўсходняй музыкі адыграў сьв. Язафат, архіяпіскап Полацкі (1580-1623). Ён сам быў аматарам музыкі і выдатным сьпеваком.[7] У часе ягонага ўвядзеньня ў Полацак, ён быў вітаны хорам з мясцовай езуіцкай калегіі, які сьпяваў па-польску і нават на лаціне. Няма сумневу, што гэты сьпеў быў шматгалосны ў заходнім рэнесансавым стылі таго часу.[8] Прэабражэнскі слушна заўважвае: «Уніяты падрыхтавалі дарогу для лацінскага сьпеву на нашы (г. зн. праваслаўныя) кліравы».[9] Дыякан сьв. Язафата, Дарахвей Лецікові (дзейнічаў у 1600-1628 г.), быў музыкам ведамым яшчэ з часу, калі быў сьпеваком у хоры Мітрапаліта Іпація Пацея.[10]

Ва ўсходняй частцы Вялікага Княства, асабліва пасьля Берасьцейскай Уніі, рэнесансавая паліфонія сутыкнулася, аднак, з вялікай варожасьцю з боку праваслаўных, якія ўважалі яе за прыладу «лацінскай ерасі». Разумоўскі піша, што Кіеўскае брацтва супраціўлялася ўвядзеньню «штучнага сьпеву» і нават называла яго

«праклятым». Праваслаўныя скардзіліся, што каталікі прыцягвалі ў свае цэрквы «слабых сыноў праваслаўя салодкімі тонамі музычных арганаў».[11] Паводле аднаго тагачаснага праваслаўнага трэбніка, сьвятары павінны былі пытацца вернікаў на споведзі, ці не хадзілі яны ў лацінскія цэрквы, каб слухаць музыку.[12]
Мялеці Сматрыцкі, спачатку вялікі праціўнік Уніі, а пасьля яе прыхільнік, піша ў досыць строгім тоне да аднаго манаха Кіева-Пячорскай Лаўры, Антона Мужылоўскага, абвінавачваючы манахаў гэтага манастыра ў непасьлядоўнасьці іхніх поглядаў на новыя плыні: «Вы кажаце: “О, праклятая Унія”; а ня так яшчэ даўно вы казалі: “Праклятае казаньне” і “Праклятыя штучны сьпеў”; калі ж, аднак, гэтыя рэчы былі ўведзеныя і прыняліся, вы пачалі ўважаць іх за добрыя».[13]
Такім чынам у першых гадох XVII ст. першапачатковы супраціў шматгалоснаму сьпеву быў зламаны. Брацтвы, якія былі заложаныя з мэтаю бараніць чысьціню праваслаўнай веры і праваслаўнага царкоўнага сьпеву, самі сталіся асяродкамі распаўсюджаньня той музыкі, з якой яны раней змагаліся. Разумоўскі ўспамінае аб уплывовым Магілёўскім брацтве, якое загадала ў 1634 г., каб «Архімандрыт Брацкага манастыра і ягоныя наступнікі наглядалі за Брацкімі школамі і глядзелі, каб яны мелі добра згарманізаваны царкоўны сьпеў» (согласное пеніе).[14] Падобныя брацтвы існавалі ў Слуцку, Наваградку, Менску, Віцебску, Мсьціслаўлі, Нясьвіжы, Воршы і Крычаве. У іхніх, часам вельмі багатых, бібліятэках былі знойдзеныя рукапісы літургічных сьпеваў на чатыры, пяць, шэсьць, восем і нават дванаццаць галасоў. У брацкіх школах даваліся лекцыі харавога сьпеву, гармоніі і кампазіцыі з мэтаю ўзгадаваньня добрых дзякоў, рэгентаў і сьпевакоў.[15] Найбольшы ўклад у беларускую царкоўную паліфонію дало без сумневу Віленскае Сьвятадухаўскае брацтва (атрымала статут у 1584 г.). Сматрыцкі піша, што паліфонія была там нармальным спосабам сьпеву: «Калі я жыў у манастыры ў Вільні, мае вернікі з беларускай Полацкай япархіі любілі мяне. Там кожнае маё слова было законам. Ці я ўваходзіў у царкву, ці выходзіў з яе, заўсёды я быў акружаны сотнямі людзей. Калі я служыў Літургію, сьпеў быў мастацкі, на чатыры хоры (г. зн. чатыры галасы)».[16]

Вялікая шкода, што, нягледзячы на такі росквіт царкоўнай музыкі ў XVI і пачатку XVII стст., толькі малая колькасьць музычных твораў была надрукаваная. Магчыма, параўнаўча малы лік друкарняў у Вялікім Княстве ў гэтым часе быў таму прычынаю.

(Далей будзе)

------------
1. Глядзі: А.Кастальский. Особенности народно-русской музыкальной системы.– Москва і СПб., 1923; A.Swan. The Nature of Russian Folk-Song. The Musical Quarterly.– New York, 1943. Vol. XXIX. P. 498-516. Заўвагі Свана адносна народнай музыкі ў Пскоўшчыне маюць вялікую цікавасьць для студэнтаў беларускай народнай гарманізацыі.

2. «On n´apprend point en Pologne ni á monter â cheval, ni á danser parcequ´il n'y a aucune acadĭmie. C´est ce qui fait que les jeunes seigneurs aiment voyager dans les pays étrangers pour y apprendre les langues et les exercices... Les Polonais sont naturellement dégagés et aiment passionnĭment la danse et la musique» cf. Sr. de Hauteville. Relation Historique de la Pologne.– Paris, 1697. P. 299-300. Польскія і беларускія вучоныя на ўнiверсітэтах у Парыжы, Балоны і Празе, а пасьля ў Кракаве.

3. J.Reiss. Najpiękniejsze ze wszystkich jest muzyka polska.– Kraków, 1958. S. 28-29. Нават на двары караля Жыгімонта беларускія арганісты, як напр., Адам Мясяжкоўскі, здабылі сабе імя. Глядзі: Б.Смольскі. Вытокі і першапачатковыя формы беларускага музычнага тэатра. Беларускае мастацтва.– Менск, 1960. Выд. АН БССР. С. 140-150.

4. Z.Ivinskis. Kirchengesang in Litauen im XVI-XVIII Jahrhundert. Commentationes Balticae I/69-106.– Bonn, 1953. P. 90-92.

5. Z.Ivinskis, op. cit. P. 102.

6. «When I came to Vilna, the chief city Lithuania, I presented myself and letters patent from the Queen that declared my titles and what I was unto the Great Duke's Voivod Radziwill, a prince of great excellency, prowess and power... and religious protestant... Took me with him to his Church, heard Divine service, psalms, songs, a sermon and the sacraments administered according to the reformed church; whereat his brother cardinal Radziwill did murmur. His highness did invite me to dinner...; brought me into a very large room where organs and singing was. I was placed before him in the middest of the table; trumpets sounded and kettledrums roared. The first service brought in, jesters and poets discourse merrily, loud instruments and soft played very musically». Cf. Sir Jerome Horsey: Travels – Russia at the close of the XVI th century.– London, 1856. P. 251-252.

7. «Ipse demum primus in choro consistere, et ita composita in omnibus praesens officiis psallere consueverat voce, ut omnes ad intimam devotionem provocaret». Cf. J. Susza. Cursus vitae et certamen martyrii B.Josaphat Kuncevicii.– Ed. Martinov. Paris, 1856. P. 48.

8. Перад уваходам у сабор на Язафата чакалі вучні мясцовай езуіцкай калегіі і лацінскія сьвятары гораду, выстраеныя ў два рады: «lls saluérent le prelat par des chants et se retirïrent aussitôt, pendant que Josaphat allait s’agenouiller devant l’autel et prendre place sur le siége archiépiscopal. Le clergé vint ensuite préter l’obédience á son nouveau pasteur, et une messe fut célébrée en action de grâces de cette heureuse entrïe. La jeunesse ruthéne de la ville chanta alors des vers en polonais en l’honneur de l’évéque...» Cf. A.Guepin: Un apôtre de l’Union des Eglises au XVIIe siécle.– Paris, 1898.Vol. I. P. 214 ff.

9. Глядзі: А.Преображенский. Латинская ересь в русском пении XVII в. Сборник «Орфей».– Петроград, 1922. Кн. I. С. 194.
«Ideoque in libris liturgicis manuscriptis e saec. XVII qui apud unitos in usu erant, invenientur aliquae innovationes quae aliter nullibi occurrunt. Invenimus ibi e. g. sequentiam «Dies irae dies illa» ut patet in linguam slavicam traductam, quae in liturgia pro defunctis cantanda praescribitur, hymnum de Spiritu Sancto «Veni Creator», saepissime hymnum «Te Deum laudamus». Ф.Добрянский. Собр. Рукописей Вил. Публ. Библиотеки.– Вильна, 1882. № 115. С. 210; № 116. С. 268; J. Praszko. De Ecclesia Ruthena Catholica, sede metropolitana vacante 1655-1665".– Roma, 1944. C. 302.

10. Cf. J.Susza, op. cit. С. 46. «Depositio P. Gennadii».

11. А.Преображенский. Культовая музыка. С. 45.

12. «Согреших в сладость, слушая гудения гуслей и орган и труб». Из чина исповедания. Гл. Ал. Веселовский: Розыскания в области русского духовного стиха. Сбор. Отеделения Русск. языка и слов. Акад. Наук.– СПб., 1883. Том XXXII.

13. Разумовский, op. cit. С. 207-208.

14. Разумовский, op. cit. С. 207.

15. А.А.Папков. Братства. Св. Троицкая Сергеевская Лавра, 1900. С. 152.

16. Разумовский, op. cit. С. 209.

Друкуецца паводле часопісу «Божым шляхам»
*за 1964 г. (№ 83, сакавік-красавік, с. 8-14; № 84, травень-чэрвень, с. 4-10; № 85, ліпень-жнівень, с. 5-7). Захаваны асаблівасьці лексікі аўтара, выпраўлены памылкі і правапіс асобных словаў ды скаротаў.*

**На фота:**
Пераносныя арганы такога тыпу былі вельмі распаўсюджаныя ў XVII ст.

Гісторыя Царквы

### Леанід Лаўрэш (г.Ліда)

# Скасаваньне Уніі на Лідчыне

Наступ на Унію пачаўся адразу ж, як толькі Беларусь была далучана да Расеі.

У 1834 г. пачалося ўсталяваньне праваслаўных іканастасаў ва ўніяцкіх храмах Лідчыны. Пад унутранае пераабсталяваньне першай трапіла Голдаўская царква, за ёй Ракавіцкая, Астрынская, Арлянская, Сабакінская, Ганчарская і Лябёдзкая цэрквы аказаліся настолькі беднымі, што былі няздольныя за ўласны кошт запрасіць сталяроў і мастакоў. Радзівонішскую царкву ўлады вырашылі наогул зьнішчыць, бо яна была ў дрэнным стане. Лідзкаму благачыннаму С. Брэну 24 студзеня 1840 г. дакладзена: «О починке Радзивонишской

царкви сообщено лидскому уездному предводителю дворянства ... предложить ему чтобы о починке этой церкви не оставил старание, и (...) Бренну ежемесячно рапортовал».[1] 29 студзеня 1840 г. лідзкі прадвадзіцель дваранства рапартаваў С.Брэну: «Устройство Радзивонишской церкви поручено г. уездному судье Журавскому».[2] У выніку царкву адрамантаваць так і не змаглі.

Сьвятар і вернікі з Дакудава аказалі супрацiў зьменам у інтэр'еры свайго храму, так што, як даносіла афіцыйная асоба, «употребляется деятельное настаивание» аб усталяваньні тут іканастасу. 30 сьнежня 1835 г. гарадзенскі губернатар Копцеў загадаў прыбраць з уніяцкіх цэркваў усе рэчы, неўласьцівыя расейскай царкве: арганы, лаўкі, званочкі. На гэта адводзілася 5 месяцаў. 25 сакавіка 1836 году лідзкі земскі ісправнік палкоўнік фон Берг інфармаваў губернатара, што такая праца ў Лідзкім павеце ўжо распачата, і ён дае абяцаньне прасачыць, каб яна была выканана дакладна. Арганы неабходна было прадаць, а калі ня знойдуцца пакупнікі, проста разабраць. Арганісты пераводзіліся на іншыя духоўныя пасады. Арганы тады меліся ў Баброўскай, Голдаўскай, Сабакінскай і Маламажэйкаўскай (Мураванскай) цэрквах.[3] 14 лютага 1840 г., ужо як губернскі вайсковы начальнік, фон Берг піша лідзкаму благачыннаму С.Брэну аб «неприступлении к устройству иконостасов Остринской, Собакинской и Глембокской церкве (...), а (...) церкви в Демброве и Дикушках ещё не построены...»[4]

У 1834-1835 гг. у сувязі з ліквідацыяй уніяцтва царква ў в. Голдава трапіла пад нутраную перабудову: устаноўлены іканастас (у маскоўскім стылі), разабраны арган, вынесены лаўкі, былі забраныя званочкі. Перадача храму ў маёмасьць Праваслаўнай Царквы не абышлася без абурэньня тутэйшых жыхароў. Лідзкі земскі ісправнік Вітэнгоф 2 сьнежня 1834 г. дакладваў гарадзенскаму губернатару Мураўёву: «У Голдаўскай царкве так мала бывае людзей з чэрні таго прыходу. Ёсьць нагода зазначыць, што ў Баброўскай царкве, што знаходзіцца ў блізкай адлегласьці, яшчэ няма іканастасу, і туды цяпер павярнуліся парафіяне Голдаўскай парафіі». У сувязі з гэтым Мураўёў адзначыў: «Загадваю імкнуцца ў дакладнасьці выканаць ускладзенае на Вас прадпісаньне: усталяваць іканастасы і іншыя духоўныя прынады па грэка-ўсходняму абраду. Даносіць мне толькі пра посьпехі справы».[5] Лідзкі ісправнік адным з першых у губерні зрабіў справаздачу, што арганы зьнішчаны, лаўкі вынесены, іншыя рэчы зьліквідаваныя. [6]

Старыя беларускія ўніяцкія царкоўныя кнігі мэтаскіравана зьбіраліся па ўсіх парафіях і паліліся. Мітрапаліт Ёсіф Сямашка піша ў сваіх «Запісках», што толькі за 3 гады было сабрана і спалена паводле яго загаду больш за 2000 беларускіх старадрукаў. Замест беларускіх богаслужбовых кніг у Расеі друкаваліся новыя, на расейскай мове.[7] Так, 24 студзеня 1840 г. лідзкаму благачыннаму С.Брэну даводзілася заданьне пра неабходнасьць «снабжения всех церквей проскомидийными листами согласно обрядов русской церкви»,[8] а 30 чэрвеня 1840 г. паведамлялася, што «Святейший синод поможет (...) отпустить для воссоединения церквей 1442 экземпляров малого требника...»[9]

Сьвятароў прымушалі падпісвацца пад лістом з адмовай ад Уніі. Аднак 593 сьвятары ў Беларусі, не зважаючы на пагрозы, наадрэз адмовіліся даць свой подпіс і згадзіцца са скасаваньнем Уніі. Нямала з гэтых сьвятароў, у асноўным бацькоў шматдзетных сем'яў, чый сацыяльны статус ня вельмі адрозьніваўся ад сялянскага, а таксама манахаў-базыльянаў пасадзілі ў манастырскія турмы на розныя тэрміны. Частку зьмясьцілі ў манастыры Беларусі (Быцень, Жыровіцы), а найбольш упартых нават выслалі ў манастыры ў глыб Расеі. 1243 сьвятары змушаныя былі падпісаць гэты ліст.[10] 18 студзеня 1840 г. у Літоўскай кансісторыі слухалі ігумена Быценскага манастыра Лявонція Аколава, які даваў справаздачу пра сьвятара Язэпа Тымінскага, пакаранага за «запорнае поведение», які знаходзіўся ў тым манастыры «на искуплении». Лідзкаму благачыннаму С.Брэну даводзілася, што гэты сьвятар накіроўваецца ў Астрынскаю царкву Лідзкага павету простым дзякам. Таму яму загадвалася «употребить меры по исправлению Иосифа Тыминского».[11] 22 чэрвеня 1840 г. благачынны С.Брэн рапартаваў Літоўскай кансісторыі, што паміж сьвятаром Астрынскай царквы Гінтаўтам і дзякам гэтай жа царквы Тымінскім складзена пагадненьне аб утрыманьні апошняга. Сьвятар Гінтаўт абяцаў «давать одежду и пропитание, а также обыкновенный дьячковый от прихода доход, которого может иметь до 12 руб. серебром, на что дьячок Тыминский согласился».[12] У перапісцы благачыннага С.Брэна ёсьць інфармацыя з Літоўскай кансісторыі ад ковенскага благачыннага Фурасевіча «о побеге (...) в Австрийскую Галицию священника Тупайской церкви Иоанна Балинского».[13]

Шмат вернікаў пераходзіла ў Рыма-Каталіцкую Царкву. 14 лістапада 1839 г. лідзкі благачынны С.Брэн зьвярнуўся да гарадзенскага губернатара з пытаньнем аб тым, што рабіць з такімі вернікамі. Яму было паведамлена, што да асобага распараджэньня архіяпіскапа Літоўскага Ёсіфа Сямашкі дадзена каманда ўсім земскім судам і гарадзкой паліцыі не праводзіць фармальнага сьледзтва, а дзейнічаць разам з праваслаўным духавенствам «благоразумными мерами посредством приличного внушения и тому подобное».[14] Рыма-каталіцкаму духавенству «строжайше предписывалось (...) бывшее греко-униатское духовенство и народ Литовский не называть греко-униатским, но православным».[15] 24 студзеня 1840 г. губернскае праўленьне даручала «лидскому городничему (...) для возвращения учителя лидского городского училища Нестора Осовского из латинства в природное православие, [чтобы] поступил сообразно циркулярному предписанию

(...), следствие прекратил (...), а действовал приличным внушением и тому подобное».[16] Ужо ў сакавіку 1840 г. Літоўская кансісторыя слухала даклад Гарадзенскага губернскага праўленьня аб настаўніку лідзкай гарадзкой вучэльні Н.Асоўскім. Настаўнік у паперы, пададзенай лідзкаму паліцмайстру Стучыну, пісаў, што «он исповедует природный православный обряд и в Римское исповедание не переходил».[17] 20 кастрычніка 1839 г. у Літоўскай кансісторыі слухалі паведамленьне 2-га аддзелу Гарадзенскага губернскага праўленьня: «По донесению лидского земского суда (...) за №3708 с препровождением рапорта настоятеля Бобровской церкви Сцепуры, (...) крестьянин из деревни Ходюки Адам Милька, перешедший (...) в латинский обряд, в православное исповедание возвращён»,[18] 10 красавіка 1840 г. аб тым, што «крестьянин имения Косовщина Адамовичевский Иван (...) в православное исповедание возвращён».[19] 28 чэрвеня 1840 г. Архіяпіскап Сямашка прапанаваў Кансісторыі «истребовать дополнительные сведения от благочинных (...), именные списки, по годам и по приходам, о (...) людях бывшего греко-униатского исповедания как совращены были в прежние времена в Римский обряд, (...) согласно предложения данного Его высокопреосвященством от 8 ноября 1836 г. за № 951 возвратить к природному Греко-восточному исповеданию, с наименованием каждого лица, места рождения, времени совращения, а также возвращения к своей вере».[20]

Упарта не жадалі прымаць праваслаўе і жонкі ўніяцкіх сьвятароў. Вось што выявіла Літоўская кансісторыя пра жонак сьвятароў лідзкага «благочиния», заслухаўшы 30 красавіка 1840 г. С.Брэна: «...Благочинный более двух лет старался благоразумными методами склонить жену настоятеля Гончарской церкви Терезу из Колендов Костецкую с дочерью Юлией к возвращению в природное православное исповедание, но (...) Костецкая столь упряма, что никак римского обряда оставить не может. В доказательство же рапортующего о сем (...) представляет он подлинное (...) отношение Слуцкого благочинного Наркевича от 3 декабря 1837 г., что упомянутая Костецкая должна исповедать православную веру, ибо бабка ея – жена православного (пэўна – уніяцкага – заўв. аўт.) священника Ярошевича состояла в том же обряде, и мать тоже, а также донесение мужа ея, священника Костецкого от 12 (...) апреля о том что Костецкая не принимает (...) его увещевание; и второе от 7-го декабря о том, что жена лидского священника Волчковича с дочерью и Докудовской церкви священника Сцепуры жена с четырьмя дочерьми по ныне состоят в Римском исповедании. Приказываю: 1-е, предписать рапортующему дабы доставил метрические выписки о рождении и крещении жен священников: лидской церкви Волчковича, докудовской Сцепуры, гончарской Костецкой (...) для дальнейшего по сему рассмотрения, 2-е, как жены священнические, для хорошего образования и, следовательно для будущего благополучия своих детей должны исповедать веру своих матерей, тем паче, что они вероисповеданию родителей своих подлежат, то просит Г. Виленского Епархиального Епископа Климовича (рыма-каталіцкага – заўв. аўт.) учинить распоряжение, дабы прописаным женам православных священников и их дочерем под никаким видом духовные требы Римско-Католическим священникам не преподавать...»[21]

Таксама ад лідзкага благачыннага С.Брэна патрабавалі разабрацца ў справе ўпартых уніятаў у мястэчку Сьвіслач пад Горадняй: «...Консистория слушала предложения Его преосвященства г. Литовского и Виленского Архиепископа и кавалера Иосифа Семашко от 5 июня за № 830 о (...) том, что Его Высокопреосвященство отнёсся куда следует, на счёт письмоводителя Свислочской гимназии Феликса Ячиновского (...) и изволил предложить Консистории (...) уволенных из свислочской гимназии сыновей Ромуальда и Станислава Ячиновских востребовать хотя бы через полицию в Жировичи и утвердить в православной вере. (...) О поступлении в свислочскую гимназию и совращении в латинство (...) Ячиновских должно быть известно священнику Одринской церкви, при которой они записаны, то потребовать от (...) священника и Благочинного объяснений...»[22] Аднак, нягледзячы на строгія меры, «генерал 9-го округа (гарадзенскага – заўв. аўт.) внутренней стражи при инспектировании вверенного ему округа, удостоверился (...), что бывшие греко-католики не знают о присоединении их к православию и называют себя по прежнему униатами...»[23]

Уся перапіска благачыннага С.Брэна напоўнена загадамі і справамі аб шлюбах паміж каталікамі і праваслаўнымі. Рыма-каталіцкае духавенства інфармавалася, што «браки русских, совершенные одними римско-католическими священниками не считаются действительными, пока необвенчаны русскими священниками».[24] А, напрыклад, 25 лістапада 1839 г. Літоўская кансісторыя слухала даклад С.Брэна аб тым, што «священник Собакинской церкви Бедрицкий рапортом от 23 ноября донёс ему, благочинному, што две женщины (...) католички (...) Тереза Михальковичова, девица (...), и (...) Анна Лукашевичева, вдова (...), приняли православие и обвенчались Бедрицким, первая с Семёном Сидляцевичем (...), вторая с Иваном Омелевичем (...). Консистория приказывает: (...) Бренну взять от этих женщин расписки, что они будут исповедать православную веру и детей своих обоего пола в нем же воспитывать... ».[25] 15 студзеня 1840 г. Кансісторыя загадвала: «При браке между православными и иноверцами всякий раз испрашивать архирейского разрешения».[26] 30 студзеня 1840 г. Кансісторыя слухала даклад С.Брэна аб тым, што парафіянін Жалудоцкага касьцёлу Якаў Сьмецюх жадае ажаніцца з дзяўчынай Францішкаю Дарашэўнай, парафіянкай праваслаўнай царквы ў Дзікушках, і «он не будет склонять своей супруги к принятию Римской веры (дал расписку) и детей своих обоего пола будет воспитывать в догматах православного исповедания».[27] Тое ж самае

патрабаваньне ў дакуменце ад 16 сьнежня 1840 г. аб шарагоўцу Берасьцейскага пяхотнага палка, парафіяніне Няцецкага касьцёлу, і яго шлюбе з дзяўчынай Аленай Грынявіцкай, парафіянкай Голдаўскай царквы.

У другой палове 1830-ых гадоў пачалася перадача ўніяцкіх храмаў Праваслаўнай Царкве, а пасьля Полацкага сабору 1839 г. Уніяцкая Царква была гвалтоўна зьліквідаваная.

У 1840 г. было забаронена прамаўляць казаньні па-беларуску, і япіскапы пачалі вымагаць ад духавенства, каб нават у прыватным жыцьці карысталіся толькі расейскай мовай. Менскі япіскап Галубовіч дакараў сваіх сьвятароў і асабліва іх жонак за тое, што гавораць мовай народу, і налягаў, каб хутчэй навучаліся расейскай мовы і далі ў гэтым «прыклад сваім парафіянам».[28]

-----------

1. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідзкаму благачыннаму С.Брэну за 1840 г.» ад 24 студзеня 1840 г.
2. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 8 лютага 1840 г.
3. Беларускі дзяржаўны архіў, г. Горадня. Ф. 1., воп. 19, спр. 1004, л. 3.; спр. 1005.
4. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 14 лютага 1840 г.
5. Лідскі летапісец. № 3. 1997. С. 17.
6. З гісторыі ўніяцтва на Лідчыне. С. В. Палуцкая // Наш Радавод. 1993. Ліда. С. 66-73.
7. а. Леў Гарошка. Пад знакам рускае і польскае веры // Спадчына. № 5-6. 1999. С. 184.
8. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 24 студзеня 1840 г.
9. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 30 чэрвеня 1840 г.
10. а. Леў Гарошка. Пад знакам рускае і польскае веры // Спадчына. № 1. 2000. С. 169.
11. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 26 студзеня 1840 г.
12. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 10 ліпеня 1840 г.
13. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 21 лістапада 1840 г.
14. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 24 студзеня 1840 г.
15. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 31 студзеня 1840 г.
16. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 24 студзеня 1840 г.
17. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 8 сакавіка 1840 г.
18. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 17 сакавіка 1840 г.
20. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 1 ліпеня 1840 г.
21. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 26 студзеня 1840 г.
22. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 18 ліпеня 1840 г.
23. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 17 кастрычніка 1840 г.
24. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 31 студзеня 1840 г.
25. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 8 лютага 1840 г.
26. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 15 студзеня 1840 г.
27. ЛГММ кп № 2741 «Кніга загадаў...» ад 16 лютага 1840 г.
28. а. Леў Гарошка. Пад знакам рускае і польскае веры // Спадчына. № 5-6. 1999. С. 184.

Гісторыя Царквы

**Андрэй ВАШКЕВІЧ, (г.Горадня)**

# Барацьба ўніяцкага насельніцтва Сапоцкінскага краю супраць прымусовага пераводу ў праваслаўе

**Не выклікае сумненьня, што ліквідацыя Берасьцейскай царкоўнай Уніі ў пачатку 1839 г. была адной з самых значных падзеяў у жыцьці беларускага народу. На фоне шматгадовых спрэчак гісторыкаў аб тым, ці адыграла ўніяцтва станоўчую, ці адмоўную ролю ў гісторыі беларусаў, вельмі мала да сёньняшняга дня распрацавана пытаньне аб тым, як жа грэка-каталіцкае (пераважна сялянскае) насельніцтва былога Вялікага Княства Літоўскага паставілася да свайго ўласнага пераводу ў праваслаўе. Фактаў падобнага кшталту аб падзеях 1839 г. захавалася параўнаўча няшмат. Між тым у паўночна-заходняй частцы Гарадзенскага раёну існуе невялікая тэрыторыя,**

**вывучэньне гісторыі Уніі на якой дае нам выдатную магчымасьць прааналізаваць гісторыю шматгадовай барацьбы мясцовых уніятаў супраць пераводу ў праваслаўе. Гэта ваколіцы мястэчка Сапоцкін (у нашай працы яны атрымалі назву Сапоцкінскі край), якія былі адзінымі землямі з этнічным беларускім насельніцтвам, што паміж 1815 і 1915 гадамі ўваходзілі ў склад Царства Польскага (аўтаномнай часткі Расейскай імперыі).**



Пасьля 1795 году беларускае насельніцтва краю (а яго, па падліках Ф.Рэмянюк, на абшарах дзяржавы на канец XVIII ст. налічвалася каля 3790 тыс. чалавек) апынулася адразу ў трох дзяржавах. Асноўная маса ўніятаў трапіла пад панаваньне Расеі (частка ВКЛ, заселеная этнічнымі беларусамі, часткова ўкраінцамі) і Аўстрыйскай імперыі (поўдзень Падляшша і заходнеўкраінскія землі). На землях, што ўвайшлі ў склад Прусіі, уніятаў было найменш. Прусія, як вядома, атрымала пераважна тэрыторыю з этнічна польскім рыма-каталіцкім насельніцтвам. Аднак на ўжо згаданай Беласточчыне жыло ў канцы XVIII ст. трохі больш за 50 тыс. уніятаў і існавала 70 грэка-каталіцкіх парафіяў. З іх паводле ўказу прускага караля Вільгельма Фрыдрыха II у 1797 годзе была ўтворана Супрасьлеўская ўніяцкая дыяцэзія, што праіснавала, аднак, толькі да 1809 году. Ужо ў 1807 годзе ў сувязі з пераходам Беласточчыны да Расеі 59 са згаданых 70 парафіяў апынуліся пад уладай Аляксандра I, які праз два гады ліквідаваў Супрасьлеўскую дыяцэзію, прылучыўшы яе да дыяцэзіяў у заходніх губернях імперыі. Засталыя 11 парафіяў з 5757 вернікамі апынуліся ў Герцагстве Варшаўскім. Большая частка гэтых парафіяў знаходзілася на тэрыторыі Сапоцкінскага краю. Пералічым іх па чарзе: Баля-Касьцельная (цяпер вёска Зарачанка) – уваходзіла 13 вёсак; Галынка – 9 вёсак; Ліпск – 10 вёсак; Лабна – 7 вёсак; Перстунь – 8 вёсак; Рыгалаўка – 11 вёсак; Сапоцкін – 30 вёсак. Цэнтрам яшчэ адной парафіі быў Аўгустоў. Яшчэ тры парафіі былі нязначныя па памерах (каля 500 чалавек) і разьмяшчаліся далёка па-за межамі Сапо=цкіншчыны – у ваколіцах Высокага-Мазавецкага. Пасьля 1815 г. гэтыя землі сталі часткай Царства Польскага і паміж 1839 і 1875 г. 7 парафіяў Сапоцкіншчыны былі апошнімі ўніяцкімі прыходамі з этнічна беларускім насельніцтвам. Усяго, па дадзеных на 1840 год, у іх налічвалася 7477 чалавек (прыкладна 5200 чалавек жылі ў вёсках, што знаходзяцца цяпер у Рэспубліцы Беларусь, астатнія ў Польшчы). Самым буйным была Перстуньская парафія – 1457 чалавек. Гэта ўсё, што засталося ад мільённай масы беларусаў-уніятаў.

Усю гісторыю ўніятаў Сапоцкіншчыны можна падзяліць на тры перыяды:

1. 1795-1875 гг. – існаваньне грэка-каталіцкіх парафіяў Аўгустоўскага дэканату адасоблена ад асноўнай масы беларусаў-уніятаў (у складзе Прусіі (1795-1807 гг.), Герцагства Варшаўскага (1807-1815гг.), Царства Польскага (пасьля 1815 г.).

2. 1875-1905 гг. – перавод грэка-каталікоў Сапоцкіншчыны ў праваслаўе і іх барацьба за магчымасьць прыняцьця рыма-каталіцтва.

3. Пасьля 1905 г. – масавае прыняцьце праваслаўнымі (былымі грэка-каталікамі) Сапоцкінскага краю рымскага каталіцтва.

Кожнаму з гэтых перыядаў адпавядаюць тыя ці іншыя формы рэлігійнага пратэсту. Разгледзім іх паасобку.

У прамежак часу 1795-1875 гг. прымусовага схіленьня ўніятаў да праваслаўя на гэтай тэрыторыі не назіралася, аднак пасьля падзеяў, зьвязаных з ліквідацыяй Уніі ў заходніх губернях, уніяты Сапоцкіншчыны зразумелі, што хутка прыйдзе і іх чарга. У 1839 годзе біскуп Філіп Шумборскі інфармаваў Сейненскага біскупа, што большасьць уніятаў у парафіі Ліпск вырашыла перайсьці ў рыма-каталіцтва, каб такім чынам пазьбегнуць прымусовага пераводу ў праваслаўе (напэўна, ужо ў гэты час насельніцтва краю ў значнай меры прылічвала сябе да ліку палякаў). Натуральна, што каталіцкая адміністрацыя на такі крок пайсьці не магла, бо гэта непазьбежна выклікала б рэпрэсіі з боку расейскіх уладаў.

Нягледзячы на вялікую рызыку, прадстаўнікі каталіцкага кліру агітавалі сапоцкінскіх уніятаў на карысьць каталіцтва. Так, у пачатку 1840-х гадоў, па словах Варшаўскага генерал-губернатара, манахі гарадзенскага Францішканскага кляштару аказвалі «самое вредное влияние на греко-униатское население смежного с монастырём Августовского благочестия, стараясь всеми мерами склонить прибывавшнх в Гродно униатов к уклонению их от церкви». Манахі ня толькі прымалі ўніятаў да споведзі, але прычашчалі іх і нават хрысьцілі. Губернскія ўлады выселілі частку манахаў з кляштару, а з астатніх узялі падпіску аб тым, што прымаць да сябе ўніятаў з-за Ласосны яны ня будуць.

Яшчэ ў сярэдзіне 1850-х гг. расейскія ўлады паспрабавалі арганізаваць у парафіях Ліпск, Перстунь, Баля-Касьцельная і Лабна пачатковыя школы для мясцовага насельніцтва. Школкі гэтыя, дзе ўсе прадметы павінны былі выкладацца па-расейску, а настаўнікамі былі дзякі з Холма, разглядаліся як адзін з найлепшых сродкаў русіфікацыі. Але сяляне занялі адносна іх адмоўную пазіцыю. Ніводная са школак так і не распачала нармальную працу аж да 1863 году, калі ўлады перайшлі да сілавых сродкаў русіфікацыі. Так, настаўнік з Балі-Касьцельнай Антон Грыневіч быў даведзены мясцовымі сялянамі «да заслугоўваючай на літасьць галечы». У сьнежні 1858 году Аўгустоўскі дэкан інфармаваў біскупа, што «ў школе ў Лабне навогул няма вучняў быццам бы з прычыны вялікай адлегласьці вёсак, да парафіі належных». З рэляцыі настаўніка Стэфана Віньскага вынікае, што грамадзкасьць парафіі і палітычныя ўлады, асабліва войт гміны, вельмі негатыўна скіраваныя да царкоўна-прыхадзкіх школаў. Галоўнай прычынай была школьная складка, якой сяляне даваць не хацелі, нельга, аднак, і пакідаць па-за ўвагай сьвядомае супраціўленьне пачаткам русіфікацы.

Такім чынам, у гэты перыяд асноўнымі формамі рэлігійнага супраціву ўніятаў Сапоцкіншчыны былі: паступовы пераход у рымскае каталіцтва і супраціўленьне русіфікацыі праз школы пры ўніяцкіх цэрквах. Усё гэта было выклікана агітацыяй каталіцкіх ксяндзоў на карысьць каталіцтва, умовамі Царства Польскага (прынамсі да паўстаньня 1830-1831 гг. усё афіцыйнае справаводзтва, сістэма адукацыі былі польскамоўныя) і падтрымлівалася негатыўнай рэакцыяй на падзеі 1839 году ў Паўночна-Заходнім краі (прымусовы перавод уніяцкага насельніцтва ў праваслаўе).

Чарга ўніятаў Царства Польскага прыйшла напачатку 1875 году, калі ўлады па старым сцэнары, абапёршыся на калабарацыянізм вышэйшых станаў уніяцкага сьвятарства, арганізавалі "дабраахвотнае вяртаньне" грэка-каталікоў ва ўлоньне праваслаўя. Разам з 250 тысячамі ўніятаў Падляшша прынялі праваслаўе і 9982 уніяты Сапоцкіншчыны. Цэрквы ў Ліпску, Рыгалаўцы, Перстуні, Лабне, Сапоцкіне, Галынцы і Балі-Касьцельнай сталі цэнтрамі праваслаўных прыходаў, а ў канцы 1870-х гг. былі ліквідаваныя рыма-каталіцкія парафіі ў Тэаліне і Ліпску з прычыны іх шкодных уплываў на былых уніятаў суседняга праваслаўнага Сапоцкінскага прыходу.

Ліквідацыя Уніі на Падляшшы насіла крывавы характар. У сутычках царскіх войскаў з уніятамі, што не хацелі дапускаць праваслаўных сьвятароў да сваіх храмаў, загінула некалькі дзясяткаў чалавек. Сотні былі параненыя і высланыя на вечнае жыхарства ў Сібір. На тэрыторыі Сапоцкінскага краю гэтыя падзеі таксама мелі водгук. Вядома, што ў Ліпску ўніяты зачыніліся ў сваёй царкве і не пускалі ў яе царскіх чыноўнікаў і папа, аднак былі выгнаныя адтуль казакамі (два чалавекі загінулі). У вёсках, якія супраціўляліся арганізавана, на пастой былі пастаўленыя казацкія атрады, якія панішчылі мясцовую гаспадарку.

Аднак такое супраціўленьне было хутка зламана. Куды мацнейшы быў схаваны, ці, інакш кажучы, пасіўны супраціў. Ён заключаўся найперш у спробах усімі магчымымі спосабамі прыняць рыма-каталіцтва. Наогул варта адзначыць, што многім былым уніятам ўдалося-такі перайсьці ў каталіцтва, хаця гэта было строга забаронена. Так, у 1888 годзе ўрадавая статыстыка па Аўгустоўскім павеце згадвае 1621 асобаў, што перайшлі з Уніі ў рыма-каталіцтва. Як гэта адбывалася? Напрыклад праз пераезд на тэрыторыю рымска-каталіцкіх парафіяў і, магчыма, праз афармленьне нейкіх фіктыўных касьцельных дакументаў.

Цікавы сюжэт мае паданьне з гісторыі роду аўтара гэтай працы. Недзе ў канцы 1870 гадоў жыхар вёскі Лойкі Іван Вашкевіч пераехаў у вёску Плябанскія, што належала раней да валоданьняў Селіванавецкай рыма-каталіцкай парафіі, дзе ў 1881 годзе нарадзіўся ягоны сын Адам, мой прадзед. Ня ведаю падрабязнасьцяў гэтых падзеяў, але калі ўлічыць, што Лойкі належалі да ўніяцкай парафіі з цэнтрам Баля-Касьцельная, і паглядзець на храналогію, то гэты пераезд пачынае нагадваць уцёкі ад праваслаўя. Можа, сам Іван Вашкевіч і быў рыма-каталіком, але ягоная маці да апошніх дзён свайго жыцьця лічыла сябе ўніяткай і, мабыць, афіцыйна працягвала лічыцца належнай да праваслаўнага прыходу ў Балі. Калі ж у самым канцы XIX ст. яна памерла і яе ўнук Адам, зыходзячы са звычайнай сялянскай практычнасьці, пахаваў яе на недалёкіх каталіцкіх могілках у Селіванаўцах, то атрымаў за гэта тыдзень адміністрацыйнага арышту.

Тым ня менш большасьці ўніятаў не ўдалося пацьвердзіць сваю прыналежнасьць да рыма-каталіцтва. Пачалося трыццацігадовае існаваньне падпольнай рэлігіі, калі фармальныя праваслаўныя таемна хрысьціліся і спавядаліся ў каталіцкіх касьцёлах. У гэтым ім дапамагалі мясцовыя ксяндзы. Але адміністрацыя ўважліва сачыла за жыцьцём «вярнуўшыхся ў праваслаўе», і гэтыя акцыі не заўсёды ўдаваліся. Так, пробашч Селіванавецкага касьцёлу Ян Гудоўскі ахрысьціў паводле лацінскага абраду дачку былога ўніята з вёскі Новікі Восіпа Сакалоўскага, а ў лісьце ад 4 студзеня 1882 году начальнік Аўгустоўскага павету патрабаваў ад ксяндза пісьмовых тлумачэньняў сваіх дзеяньняў.

Патаемныя вянчаньні былых уніятаў і хрышчэньне іх дзяцей у рыма-каталіцкім касьцёле прывялі да ненармальнай зьявы, калі, паводле афіцыйнай урадавай статыстыкі, у Аўгустоўскім павеце Сувалкскай губерні (куды ўваходзілі вёскі Сапоцкіншчыны) да немаверных памераў вырасла колькасьць пазашлюбных дзяцей. Так, у 1888 годзе ў Аўгустоўскім павеце нарадзілася 1887 дзяцей ад законных бацькоў і 329 дзяцей ад бацькоў, што афіцыйна мужам і жонкай не зьяўляліся. На гэта зьвярнуў увагу адзін з аўтараў «Памятной книжки Сувалкской губернии на 1890 год», які прапанаваў наступнае тлумачэньне зьявішча: «Такое огромное количество незаконных рождений в Августовском уезде, как 14,8 % (у цэлым па губерні – 4,5 % – А.В.), находит себе очень вероятное объяснение в ненормальном положении бывших греко-униатов, воссоединённых в 1875 году...

Под влиянием преданности католичеству лица, принадлежащие к 1-й группе, весьма часто прибегают, конечно тайно, к освящению брака по католическому обряду, но так как открыто заявить об этом не могут, то для православной церкви и администрации их союз остаётся ничем иным, как простым незаконным сожитием, и только в их глазах имеет значение брака, освящённого церковью. Прижитыя в таком браке дети, не передаются на крещение православному духовенству и без сомнения заносятся в число незаконнорожденых даже в том случае, когда над ними совершается тайное крещение по обрядам католической церкви... Только в этом печальном явлении и можно найти обьяснение поразительного на первый взгляд явления в Августовском уезде».

Адной з формаў пасіўнага супраціву былых уніятаў стала масавае пранікненьне іх у касьцёлы падчас сьвятаў, дзе ксёндз, які ня ведаў усіх сваіх парафіянаў з твару, ажыцьцяўляў над праваслаўнымі абрады па-каталіцку.

22 траўня (3 чэрвеня) 1881 году ксёндз з вёскі Селіванаўцы пісаў начальніку Аўгустоўскага павету ў справе Антона Янулевіча, былога ахоўніка Тэалінскага касьцёлу, наступнае: «Я лично могу заверить Ваше Высокоблагородие, что он не только не мешается в дела б. униятов, но насколько может устраняет их, и благодаря его бдительности никогда не случилось, чтобы кому-нибудь удалось из б. униятов обманом подкрасться к совершению над ними духовных треб». Як бачым, часта ўніяты былі пакінутыя самі сабе, а ксяндзы вымушаныя адганяць іх ад сваіх сьвятыняў.

Як супраціў можна разумець і выключна варожае стаўленьне мясцовага насельніцтва да праваслаўя, расейскай адміністрацыі і любых яе захадаў. Варта адзначыць, што амаль усе тагачасныя дасьледчыкі, пачынаючы ад «западно-русса» Я.Карскага і да польскага нацыяналіста Б.Шушкевіча пісалі, што жыхары бясспрэчна належаць да этнічных беларусаў, але стараюцца ўсяк паказаць сябе палякамі. Б.Шушкевіч пісаў: «Здесь... живёт население, употребляющее между собой в повседневной жизни белорусский язык, а в городе на рынке и около костёла польский. В большинстве своём это переведённые в православные униаты, из-за чего эта около 35-тысячная масса (Бр. Шушкевіч дае і колькасьць праваслаўных і каталікоў – былых уніятаў у пач. XX ст. – каля 12 тыс. чалавек – А.В.) была в молчаливой оппозиции к церкви и правительству. И считали себя поляками. Вообще всё это население было прекрасным материалом для агитации и антироссийской пропаганды...». Супрацьстаяньне было настолькі моцным, што людзі нават жылі з двума імёнамі: афіцыйным праваслаўным і сапраўдным – каталіцкім. Так, у метрыцы жыхара вёскі Калбаскі Бараноўскага запісана, што ён быў ахрышчаны ў 1893 годзе ў Балянскай царкве пад імем Барыс, а ўжо ў дакументах 1920-х гг. фігуруе як рыма-каталік Браніслаў Бараноўскі.

Сітуацыя прынцыпова зьмянілася пасьля 17 красавіка 1905 году, калі імператарам Мікалаем II быў падпісаны знакаміты ўказ аб рэлігійнай талеранцыі. Паводле ўказу, праваслаўе заставалася пануючай рэлігіяй у імперыі, але з яго цяпер можна было законна перайсьці ў іншае веравызнаньне.

Менавіта тады пачаўся масавы пераход жыхароў Сапоцкіншчыны ў каталіцтва (Уніі ўжо не існавала). Каталіцтва тут прымалі цэлымі вёскамі, намагаючыся як мага хутчэй забыцца аб сваім праваслаўным мінулым і гэтым сьцьвердзіць сваю прыналежнасьць да каталіцкага касьцёлу і польскага народу. Па афіцыйных зьвестках расейскага ўраду, за перыяд 1905-1913 гг. у каталіцтва з праваслаўя ў Аўгустоўскім павеце Сувалкскай губерні перайшлі 16012 чалавек. Гэта было амаль усё праваслаўнае насельніцтва Сапоцкіншчыны.

Пачатак Першай сусьветнай вайны, нямецкая акупацыя і ўздым барацьбы за адраджэньне польскай дзяржавы толькі паскорылі гэты працэс. Да 1918 году ў канчатковы заняпад прыйшлі праваслаўныя прыходы, большасьць цэркваў была перароблена мясцовымі жыхарамі ў касьцёлы, што было непасрэдным адлюстраваньнем іх польскай нацыянальнай сьвядомасьці.

Як бачым, рэлігійны супраціў насельніцтва Сапоцкіншчыны быў вынікам супрацьстаяньня паланізацыі ў асобе каталіцкага касьцёлу і русіфікацыі праз праваслаўную царкву, што, з аднаго боку, прывяло да больш уважлівага стаўленьня мясцовага насельніцтва да праблемаў свайго рэлігійнага жыцьця, а з другога – выклікала дэфармацыю этнічнай самасьвядомасьці жыхароў Сапоцкінскага краю, якая заключаецца ў сьвядомым прылічэньні сябе мясцовымі беларусамі-каталікамі да польскага этнасу.

Літаратура і крыніцы:

1. Rzemieniuk Florentyna. Uniackie szkoły początkowe w Królestwie Polskim i w Galicji 1772 – 1914. – Lublin, 1991.
2. Ганчар А. Міжканфесійныя адносіны на тэрыторыі Гродзенскай губерні ў п.п. XIX– пач. XX ст. / Этносоциальные и конфессиональные процессы в трансформирующемся обществе. Ч.2. – Гродно, 2001.
3. Szumski Jerzy. Parafia Teolin w latach 1788 – 1887 // Magazyn Polski. – 1993. – № 1/2.
4. Pojeziorze Augustowsko-Suwalskie // Przewódnik krajoznawczy i turystyczno-letniskowy. – 1937.
5. Polak. – 1902. – Październik. – № 10.
6. Памятная книжка Сувалкской губернии на 1890 год. – Сувалки, 1890.
7. Перапіска пробашча парафіі з губернскімі ўладамі і мясцовай адміністрацыяй за 1876-1883 гг. (Архіў Гожска-Селіванавецкай рыма-каталіцкай парафіі захоўваецца пры касьцёле ў в.Селіванаўцы Гарадзенскага раёну).
8. Бронислав Шушкевич. Гродненская организация ППС в 1898 – 1937 годах. Воспоминания // Черепица В. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX – XX столетий в событиях и лицах. – Гродно, 2003.
9. Метрыка і вайсковая кніга Браніслава (Барыса) Бараноўскага захоўваюцца ў асабістым архіве Ганны Пячынскай.
10. Праект мемарандума ўрада БНР для Апостальскага Пасаду ад 7 лютага 1921 года / Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. – Мінск-Мюнхен, 1999.

*(Друкуецца паводле: "Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў: зборнік навук. артыкулаў" / Гродз. дзярж. ун-т; рэдкалегія: І.П.Крэнь, У.І.Навіцкі, В.А. Белазаровіч (адк. рэдактары) [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2006. – С. 259-264.)*

**На фота:** *Уніяцкі храм (сёньня – касьцёл) у в.Перстунь Гарадзенскага р-ну.*